*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# НАША СЛОВА





№ 9 • ЛІСТАПАД • 1990 Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.


## У НУМАРЫ:



## *60 гадоў Уладзіміру КАРАТКЕВІЧУ*



# ТЭЛЕГРАМЫ ПРА ЗДРАТАВАНУЮ МОВУ

Далейшая русіфікацыя беларускай прэсы, шляхам пераводу шмат якіх выданняў на рускую мову, а таксама стварэння новых выданняў на рускай мове, пазбаўляе нас магчымасці атрымліваць інфармацыю на роднай мове, г. зн. беларускай, што з'яўляецца парушэннем нашых правоў. Таму патрабуем забяспечыць нам права атрымліваць інфармацыю на роднай мове.

**М. БЛАЖЭЙ, Н. ЛЫСЮК, І. КЛІМАШЭЎСКІ.**

* * *

Узрушаны і па-сапраўднаму занепакоены становішчам, якое адбываецца ў нашай рэспубліцы, у сувязі з выгнаннем беларускага слова з друку.

Газета «7 дзён» у наступным годзе выключае і тыя 2 старонкі на роднай мове, прыкрываючыся камерцыйнымі цікавасцямі.

«Літаратура і мастацтва» і ўсе астатнія беларускія выданні стаяць на парозе развалу. Мы лічым, што гэта дыскрымінацыя з боку выдавецтва ЦК КПБ.

Людзі Беларусі, якія жывуць і працуюць у яе межах, не змогуць чытаць часопісы і газеты на роднай мове. З якой мэтай усё гэта робіцца?

Звяртаемся да ўсіх народных дэпутатаў: дапамажыце беларускаму слову, беларускім выданням!

**Т. САСНОЎСКАЯ, Ю. САСНОЎСКІ, В. СМАЛЯНКА, В. МАРКЕВІЧ, С. СІТКІН, В. ГРАЧОЎ, Л. ЛЯВІЦКІ, Э. ПРАШКО, А. ВЫСОЦКАЯ.**

* * *

Мы абураны тым, што ў рэспубліцы ідзе мэтанакіраваны сабатаж «Закона аб мовах». Асабліва відавочна гэта праявілася пры правядзеньні падпісной кампаніі на рэспубліканскія газеты і часопісы. Беларуская мова планамерна знішчаецца. таму мы патрабуем зрабіць тэрміновыя захады ў падтрымку беларускамоўнага друку, у тым ліку і поўнай адмены на яго ўсялякага падатку.

**СУПРАЦОЎНІКІ ВА «ПРАМСУВЯЗЬНАЛАДКА» У. ЦЯРОХІН, В. РЫЧЫК, С. ЧЫРУН, С. ЧАРНЯЎСКІ, З. ПАТАПОВІЧ, А. МІКАЛАЕЎСКІ, А. МАСЛАЎ, В. КАЛЯБОШЫН, А. ТОЎСЦІК, А. КЛЫБІК, Л. СЯМЁНАЎ, Б. МОШАЎ, А. ФЕДАРАЎ. С. ГАНЬКОЎ, Л. ЦАРЫК, А. ФУКС, А. ЦІХАНАЎ.**

## *ТРЫБУНА ДЭПУТАТА*

# Няхай радуе роднае слова

Сёння, калі гутарка ідзе пра родную мову, нельга не прыгадаць словы выдатнага вучонага і асветніка Францыска Скарыны, якія сталі своеасаблівым стрыжнем усяго яго жыцця: «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чуют виры своя;... тако ж и люди, игде зродилися и скормлены... к тому месту великую ласку имають». Трапна сказана, ці не так? Дык чаму ж мы павінны адракацца ад роднай мовы? На самай жа справе яно так і было. Дзесяцігоддзямі вынішчалася наша гісторыя, культурная спадчына. І толькі сёння мы задумаліся, што трэба рабіць, каб людзьмі звацца, каб ганарыцца беларускай дзяржавай, роўнай сярод іншых народаў, паважанай усімі, як зрабіць, каб беларусы былі гаспадарамі ва ўласным доме і маглі размаўляць на матчынай мове?

Людзі, якія не ведаюць сваёй мовы, пагарджаюць ёю, якія часам нават лічаць гэта за пачэсную справу, проста з'яўляюцца абдзеленымі нечым вялікім, яны абкрадаюць сябе!

Крыўдна становіцца за сваю сінявокую Радзіму, якая мае прадстаўніцтва ў ААН. Тым часам у школах вельмі дрэнна вывучаюць мову і літаратуру, гісторыю роднага краю, не чытаюць творы нашых вядомых і маладых пісьменнікаў (іх творы з задавальненнем раскупляюць за межамі рэспублікі), мімаходзь згадваюць пра нашых народных герояў, гэтакіх, як Кастусь Каліноўскі, дзед Талаш і інш.

Збяднелі раптам наша гісторыя, культурная спадчына. Адзін з жыхароў нашага горада шукаў у кніжнай лаўцы, кіёсках гэтакую дробязь, як адрыўны каляндар на беларускай мове,— няма. Не выпускаюць. Бачыў на рускай, украінскай, латышскай, літоўскай мовах, а вось на роднай беларускай — днём з агнём не знайсці. А хіба нам, беларусам, няма чаго змясціць у такі каляндар? Ёсць.

Або хто б дапусціў, каб не на роднай мове вяліся дэбаты ў нацыянальным парламенце, ці чыталіся малітвы ў цэрквах і касцёлах? Дарэчы, 16 чэрвеня г. г. у Мінску адбыўся сход Мінскай каталіцкай грамады, які абраў касцельную Раду і Арганізацыйны камітэт па стварэнні Беларускай Каталіцкай Грамады. Аргкамітэт прыняў адозву, у якой, у прыватнасці, ёсць такі пункт: «Беларуская Каталіцкая Грамада заклікае беларускае каталіцкае духавенства забяспечыць паўнакроўнае функцыянаванне ў Касцёле беларускай мовы, як мовы дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Дзеля гэтага неад'емнага права беларускага народу неабходна выдаваць рэлігійную і богаслужэбную літаратуру на беларускай мове».

Руская, украінская, беларуская, польская — мовы-браты, і зразумелыя прадстаўнікам гэтых народаў. У кожнай з іх ёсць свая прыгажосць, і кожны народ павінен ведаць і сваю мову, і мову брата-народа, ганарыцца імі.

А колькі прыгажосці нясуць нашы абрадавыя ўрачыстасці. Узяць хаця б Купалле, якое адзначаецца ў народзе як свята найвышэйшага росквіту жыццядайных сіл зямлі, у першую чаргу раслінпасці, збажыны. Яшчэ днём дзяўчаты ішлі на луг, у поле збіраць купальскія зёлкі — руту, браткі, папараць. А ўвечары ля купальскага агню моладзь вадзіла карагоды, скакала праз агонь, купалася ў рэчцы, варажыла на вянках, якія дзяўчаты і хлопцы пускалі на рачную плынь, загадваючы на будучага мужа і жонку. І, вядома ж, гучалі меладычныя беларускія песні.

Забываць пра гэта нельга, як і грэбаваць роднай мовай. Я ўпэўнены, што тыя рускія, якім страшная ўкраінская або беларуская мовы, таксама тыя, хто ганарыцца неразуменнем сваіх родных украінскай або беларускай, проста абыякава ставяцца да гэтых моў, пакутуюць ад духоўнай ляноты і проста крывадушнічаюць.

У адным з раздзелаў маёй передвыбарнай платформы, якая складалася напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет БССР, ёсць такі пункт: «...выкананне праграмы «Родная

*(Заканчэнне на 7-й стар.).*

# АХОЎНАЯ ЗОРКА

## *Да 60-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА*

Пачынаю пісаць гэтыя радкі і думаю: «Эх жа ты, доля-нядоля беларуская! Хоць бы калі ды пашанцавала. Але дзе там. Беды абрушваюцца адна за другой. Няма і цяпер таго шанцу, і раньш не было. Такіх выдатных сыноў і дачок нараджае наша святая зямля, нягледзячы на спрадвечнае вынішчэнне, ганьбаванне і ўціск,— але які кароткі іхні век».

Вось і Уладзімір Караткевіч, адзін з самых таленавітых і сумленных творцаў Беларусі, адышоў ад нас гэтак зарана. А як бы прыдаліся ягоныя розум, мудрасць і мужнасць, апантанасць і непахіснасць, справядлівасць і дабрыня ў наш трывожны і няўстойлівы час, калі бліснула нейкая надзея і зноў пачынае згасаць, калі высакародныя ідэі нацыянальнага адраджэння, якім ён да канца аддаў сваё жыццё, зноў сустракаюцца ў штыкі арміяй разбэшчанага чыноўніцтва, тымі беларусамі, якія выракліся ўсяго роднага, крэўнага,ператварыліся ў паслухмяны статак рабоў, калі з няўмольнай трагічнасцю паўстала пытанне фізічнага і духоўнага выжывання нацыі.

Так, Уладзімір Караткевіч — наш асаблівы боль, але і нашая асаблівая радасць. І гэтая радасць ідзе ад усведамлення таго, што нам засталася такая багатая ягоная спадчына, таленавітае слова, а таму ён быў, ёсць і будзе заўсёды разам з землякамі, дапамагаючы ім станавіцца сапраўдным народам.

На Беларусі сёння Караткевіч самы чытаемы пісьменнік. У ягоных творах жывуць мудрасць і развага, якія захапляюць людзей сталага веку, рамантыка і прыгодніцтва, якія імпануюць моладзі, рыцарства і мілосць, якія зачароўваюць жанчын і дзяцей. А галоўнае тое, што ягоным словам гаворыць з усім светам душа Беларусі. Калі кнігі Караткевіча прачытае чалавек з далёкага краю, які ніколі не быў у нас (а такіх чытачоў у яго шмат), то нават і ён пранікнецца павагай да гэтай зямлі, да яе людзей, палюбіць іх.

Багатай фантазіяй, высокім інтэлектам, энцыклапедычнай дасведчанасцю, выключнай інтуіцыяй пазначана ўся творчасць Караткевіча, пачынаючы ад верша «Машэка», які быў надрукаваны ў 1955 годзе ў часопісе «Полымя», і да пасмяротнага зборніка з сімвалічнай назвай «Быў. Ёсць. Буду». Уражвае працавітасць пісьменніка, шматграннасць ягонага таленту, які змог увасобіцца і ў паэзіі, і ў гістарычных раманах і аповесцях, і ў апавяданнях, і ў эсэ, і ў п'есах, і ў кінасцэнарыях. Такое бывае ў наш час вельмі рэдка і, як кажуць у народзе, ідзе ад Бога. Але літаратура — хлеб нялёгкі. Яна мае крэўную сувязь з сялянскай працай, з потам і мазалём. І Караткевіч, як араты, вёў сваю баразну. Пад ягоным вечным пяром (любіў самапіскі, цураўся шарыкавых ручак) ажывалі вякі мінулыя, узнаўляліся сівыя легенды, і сучаснае жыццё, падсвечанае промнямі гісторыі, бачылася шматмерна і праўдзіва.

Ён, як і кожны творца, любіў той час, калі працавалася. Гэта была не толькі праца, але і свята. За пісьмовы стол садзіўся заўсёды з ціхай радасцю, паголены, у чыстай адпрасаванай сарочцы і ніколі не мяняў свае звычкі.

Калі чытаеш Караткевіча, то заўважаеш, што самыя блізкія яму словы — Гонар, Годнасць, Сумленне, Праўда. Яго заўсёды турбавала думка: як захаваць, абараніць і ўмацаваць годнасць чалавека, на што яму абаперціся ў гэтым жыцці? Гэтым роздумам прасякнуты ўсе кнігі пісьменніка. І ён знаходзіць адказ: наша трываласць — у павазе да матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, у любові да сваёй зямлі, у вернасці мудрым, гуманістычным традыцыям працавітых і вольналюбівых продкаў.

Уладзіміру Сымонавічу жылося і працавалася няпроста. Гісторыя падае нам шмат прыкладаў, калі адданая, неймаверная любоў вялікага сына да свайго народа, да роднае зямлі натыкаецца на неразуменне, на адкрытую варожасць абмежаваных, неадукаваных, але «звышпільных» сучаснікаў, якія рознымі шляхамі ўціскаюцца ў высокія крэслы і адчуваюць сябе ўладарамі жыцця. Нямала крыві і нерваў папсавалі Караткевічу такія «ўладары», навесіўшы на яго ярлык нацыяналіста. Колькі разоў яны вышуквалі нацыяналістычную крамолу, рэзалі па жываму ягоныя рукапісы. Так было і з выдатным эсэ пра Мсціслаў — адной з апошніх прац Караткевіча. Пасля цэнзарскіх алоўкаў «чорных палкоўнікаў» з выдавецтва «Беларусь» яно выйшла ў кастрыраваным выглядзе. А частка ягоных твораў пры жыцці так і не была апублікавана. Сёння яны вяртаюцца да нас. Для прыкладу, толькі ў «Полымі» надрукаваны ўжо аповесці «У снягах драмае вясна», раздзелы з рамана «Брань», дзённік. Неўзабаве часопіс апублікуе невядомае апавяданне Караткевіча.

Пісьменнік так і не пачуў ад афіцыйных улад тых слоў павагі, якія заслугоўваў больш, чым хто. Але затое ён адчуваў увесь час любоў і ўдзячнасць сваіх чытачоў, што падтрымлівала і жыццёвыя сілы, і творчы настрой. І гэта была найвышэйшая ўзнагарода, пра якую марыць кожны мастак!

Мне пашчасціла на працягу многіх гадоў сябраваць з Уладзімірам Сымонавічам, бываць у ягонай гасціннай кватэры. Ён быў і выдатным апавядальнікам, і ўмеў слухаць. Столькі цікавага, невядомага пра гісторыю Беларусі, пра кожны куточак роднага краю пачуў я ад яго! І ў мяне часта ўзнікала думка: «Адкуль такія веды?» Аднойчы на маё здзіўленне ён адказаў: «Я ж, браце, вандроўнік заўзяты. Колькі пераходжана гэтымі нагамі, колькі перабачана гэтымі вачыма. А яшчэ архівы. Табе і ў страшным сне не прысніцца, колькі пераглытаў я пылу ў сховішчах, колькі перагартаў старонак дакументаў. І не толькі дома, але і ў Кіеве, Львове, Вільні, Ленінградзе, і за мяжой».

Ягоную дапытлівасць я пабачыў на Ушаччыне, куды неаднойчы завітваў Уладзімір Сымонавіч і для таго, каб зрабіць сюжэты ў тэлеперадачу «Спадчына», і з экспедыцыяй АН БССР, і проста ў госці да мяне, да маіх бацькоў. Ён абгледзеў усе ўшацкія валатоўкі, рэшткі храмаў, помнікі, магілкі, абмацаў, як кажуць, кожную цагліну, кожны камень. Помню летні вечар. Ля цяпельца ляжаць вуды, а ў вядры булькае духмяная юшка. Задуменны, прасветлены Уладзімір Сымонавіч сядзіць на абымшэлым валуне, апусціўшы босыя ногі ў цёплую азёрную ваду, і глядзіць, як з-за лесу выплывае поўня. Тады і з'явіўся надпіс на кнізе «Каласы пад сярпом тваім»: «Дарагім сябрам, Сяржу, Лілі і Алёнцы Законнікавым, добрым маім землякам, на знак павагі і любові і на ўспамін аб гэтых цёплых ушацкіх ліпеньскіх вечарах, аб поўні над Вечаллем; на ўспамін аб усім, што звязвае нас чатырох з гэтай нашай добрай беларускай зямлёй. Бывайце шчаслівыя. 28 ліпеня 1972 г. Ушачы». У мяне шмат кніг Уладзіміра Сымонавіча з аўтографамі. Але гэты запомніўся яшчэ і тым, як пісаўся. Кватэрка ва Ушачах у мяне была маленькая, і мы з ім прынеслі па ахопку свежага сена, паслалі на падлозе і выдатна ўладкаваліся. Тут жа на падушцы ён і падпісаў кнігу. А потым гаварылі, гаварылі з ім да самай раніцы.

Пасябраваў Уладзімір Сымонавіч і з маім бацькам з часу сумеснай працы над тэлеперадачай, надта ж упадабалі яны адзін аднаго. Кожны раз, калі я ехаў у Мінск, бацька стараўся перадаць Караткевічу хоць які-небудзь гасцінец. Як і Уладзімір Сымонавіч, ён любіў пажартаваць, нечым здзівіць. Аднойчы вясною ў нашым лесе было багата смарчкоў. Мы назбіралі іх цэлы мех. Бацька наверх паклаў ладны кавалак сала і сказаў: «Вязі вось так — у мяху. Павінен жа і я нечым уразіць Караткевіча». І сапраўды. Калі я пазваніў у кватэру і ўваліўся туды з мехам грыбоў, то захапленню не было мяжы. Уладзімір Сымонавіч доўга дзіваваўся, а потым сказаў: «Распранайся. Зараз жа будзем варыць, смажыць і есці». Так і зрабілі. Прамылі грыбы, адварылі, зноў прамылі і паклалі на патэльню. Але загаварыліся і забыліся пра накрыўку. Чую нейкі трэск і кажу: «Трэба глянуць». А Уладзімір Сымонавіч адказвае: «А ні бяды. Хай сабе трашчаць, яны смажацца.» А потым запахла

Заканчэнне на 9-й стар.

# КАЛІ СЛОВА ПРЫРОДНАЕ, ДЫК ЯНО І ГОДНАЕ

***У другім нумары нашага бюлетэня апублікаваныя цікавыя матэрыялы да трасянка-беларускага слоўніка, якія падрыхтаваў Сяргей Дубавец. Гэтая публікацыя разбудзіла ў нашых чытачоў цікавасць да жывога беларускага слова, дух якога, на вялікі жаль, амаль адсутнічае ў сучасных слоўніках. Мы атрымалі шмат лістоў, у якіх выказваюцца пажаданні даць працяг тых матэрыялаў. Таму рэдакцыя і звярнулася з адпаведнай просьбаю да Зьміцера Санька. Ён прапанаваў нам выпісы, зробленыя разам з сябрам Тэрміналагічнай камісіі ТБМ Анатолем Гурыновічам, пераважна з даўнейшых і сучасных слоўнікаў, з артыкулаў па культуры мовы Ф. Янкоўскага, А. Каўруса, В. Красоўскага.***

абажур — засня
благоухание — вохнасць
благоухающий — павохны
блеск — бліск
болт — ніт
булькать — бурболіць
бур — свідар
бурить — свідраваць
введение *(у кнізе)* — уступ
верить — даваць веры, верыць
вертикаль — строма
вертикальный — стромы
винт — шруб
внешний — 1. вонкавы, знадворны; 2. замежны
воспитанник — выхаванец, гадунец
воспитатель — выхавальнік, узгадавальнік
в лотную — усутыч
выделка — вы́чынка
выносливый — вытрымлівы
высший — найвышэйшы
гайка — на́крутка
глава *(у кнізе)* — раздзел
гололед — абліваха
горелка — агнёўка
горизонталь — пазе́м
горизонтальный — паземы
господа́ — спада́рства
господин — спада́р
госпожа — спада́рыня
гостиная — гасцёўня
гравий — жвір, жарства
громкоговоритель — галоснік
громовержец — грамабой
действительный (член) — праўдзейны
действующий — дзейны
делимое *(мат.)* — *дзеліва*
держатель — трымач
доброжелательный — зычлівы
доброта — дабрыня, добрасць
доверие — давер
дротик (копье) — ашчэп
дымка — смуга
жаба — рапу́ха
жемчужина — пе́рліна
заблудший — аблудны
заблуждение — аблуда
забрало — прылбіца
заглавие — найменне
заключение *(у кнізе)* — дакончанне
закупорить — 1. *(бочку)* зашпунтаваць; 2. *(бутэльку)* закаркаваць
залежи — пакла́ды
заряд *(вайск.)* — набой
застежка — за́шпілька
идол — стод
из-за (по причине) — праз, ад, дзеля, з, з прычыны
изложение — выклад
измеритель — мернік
измерительный — мерны
измеряемый — вымяровы
изображение — 1. вы́ява; 2. *(графічная)* відары́с
изобретение — вынаходка
икра *(жабы, рапухі)* — жабуры́нне
именно — якраз, менавіта
испытуемый — выпрабоўны
исследуемый — доследны
катушка — шпуля
кипяток — кі́пень, вар
коварство — падступнасць, здрадлівасць
корешок *(кнігі)* — спінка
кошмар — не́марасць
крышка — 1. *(у пасудзіне)* накры́ўка; 2. *( скрынцы і да т. п.)* вечка
лист*(паперы)* — аркуш
лишения — нястачы
ложный — аблудны
лыжи — ірты
лягушка — жаба
магнит — магнэс
марево — мроіва
масло *(тэхн.)* — алей
мел — крэйда
мимоза — непадзьмі́нка
млекопитающие — сысуны
многие — шмат якія, многія
моток — змотак
мститель — помснік
мышца — цяглі́ца
наваждение — насланнё
напряжение — напру́га
насекомые — вусякі́
насильно — жывасілам, гвалтам
начинающий — пачатковец
небьющийся — небіткі
недостаточно — замала
неискушенный — недасведчаны, неспрактыкаваны
непримиримый — непрымірэнчы
новейший — найноўшы
ножны — похва
облегчение — палёгка
обмотка *(тэхн.)* — навой
общежитие *(лад жыцця)* — супольнае жыццё
обыск — вы́шук
одобрение — ухва́ла
одобрить — ухвалі́ць
ознакомительный — азнаямленчы
оснащение — забяспе́чанне
отвертка — шрубоўнік
отношение — дачыненне, стаўленне
отправитель — адпраўнік
отходы — адыходы
параллельный — раўналежны
педаль — понаж
переплет — 1. *(кнігі)* аправа; 2. *(працэс)* сшытаванне
переплетать *(кнігу)* — сшываць
переплетчик — шыта́р
перпендикуляр — старчо
перпендикулярный — старчовы
пика — дзіда
плашмя — плазам
плоский — пляскаты, роўны
плоскогубцы — пласмы
плоскость — роўніца
погрешность — хібнасць
подходящий — прыдатны
половик — ходнік
полоса — палоса
полуторка — паўтара́к
полуторный — паўтара́чны
понравиться — прыйсціся даспадобы, спадабацца
постоянно — увесь час, безупынна, няспынна
постоянный — заўсёдны
потребляемый — спажывовы, спажываны
потуги — намаганні, хва́ткі
походка — хада́
почти — траха што, амаль
превосходить — перасягаць, перавышаць
предоставить — даць, пада́ць
предпочитать — адаваць перавагу, уважаць за лепшае
представиться — адрэкамендавацца, назваць сябе
представленный — пададзены *(рукапіс*

*і да т. п.)*
преемник (последователь) — наступнік
пресмыкающиеся — паўзуны
прибор — прыла́да
приемный — прыймовы
прыемная *(наз.)* — прыйма́льня
приманка — пруна́да
применение — 1. дастасаванне *(дастасаваць артыкул закону)*; 2. ужыванне *(ужыць на практыцы)*, скарыстанне; 3. прыстасаванне *(да новых умоў працы)*
приспособление — 1. *(прылада)* прыстасова; 2. *(працэс)* прыстасаванне
приступить — распачаць
прихожая — вопратня
прозябать — мадзець
проситель — просьбіт
простенок — міжаконне
путеводитель — праваднік
радиоприемник — радыёпрыймач
разворот *(кнігі)* — разгортка
раздражать — цвяліць, пацвяляць, раздражняць
раствор *(хім.)* — рашчы́на
рэгулируемый — рэгулёўны
рекомендуемый — рэкамендаваны
решение *(задачы, праблемы)* — развязанне
решить — 1. *(задачу і да т. п.)* развязаць; 2. *(сабраціа)* надумаць, наважыцца, насмеліцца, замерыцца
рисунок — малюнак
розыск — прасока
руль — стырно
ручка *(збана і да т. п.)* — вуха
рычаг — ваға́р
рюкзак — хату́ль
саван — са́ян
свинарник — свінушнік
скважина — свідравіна
скопление — скучанне
скрепка — сашчэпка
скрепкосшиватель — сашчэпнік
слепец — сляпун
смета — каштары́с
снаряжение — рыштунак
содержимое — змесціва
сокращение — 1. *(абрэвіятура)* скарот; 2. *(працэс)* скарачэнне
сопротивление — 1. супраціў; 2 *(фіз.)* супор.
составной — складовы
сперматозоид — народак
спора *(біял.)* — зярлі́ца
ствол — 1. *(дрэва)* галаме́нь; 2. *(зброі)* ру́ля
столовая — страўня
съедобный — страўны
сыворотка *(мед.)* — сыроватка
терпкий — даўкі *(смак)*
толстяк — таўстун
туземец — тубы́лец, тутэйшы
управляемый — кіроўны
управляющий — кіраўнічы, кіравальны
устройство *(прылада)* — начына
учащийся — навучэнец
учебный — навучальны
хитрец — хітрун
ходьба — хада
чемодан — пакоўня
черта — рыса, рыска
чертеж — рысунак
чертежник — рысоўнік
черчение — рысаванне
чирикать — цвыркаць
число — дзень месяца
шуба — кажух, футра
шуруп — шрубок, укрутка
пальцы рукі: большой — пясту́к, указательный — ківу́н, средний — даўга́й, безымянный — пярсцец, мизинец — ме́зенік шуточка — жарцік
эффективный — дзейсны
ярий — зыркі
яркость — зыркасць
ясный — 1. зразумелы; 2. ясны *(дзень)*

**Некаторыя словазлучэнні**

баловень судьбы — выбра́нец лёсу, лёсік
бессвязная речь — бязладная гаворка
большое спасибо — вялікі (шчыры) дзякуй
брюшной тиф — чэраўны тыфус
в диковинку — у навіну́
в завершение всего — у дадатак да ўсяго
високосный год — пераступны год
во время — у часе, пад час
во главе — на чале
в конце концов — урэшце, нарэшце
в последнее время — апошнім часам (апошнімі часамі)
гаечный ключ — нітоўнік
голыми руками *(без зброі)* — галару́ч (пар. басанож)
далеко идущий — далёкасяжны
два с половиной — паўтраця
желчный пузырь — капшучок
заливной луг — поплаў, луг
заслуженный отдых — нажыты адпачынак
из третьих рук — праз трэція рукі
истекать кровью — сыходзіць крывёю
канцелярские принадлежности — пісьмовае начынне
кошмарный сон — не́марасць, жудасны (жахлівы, страшны) сон
красная строка — новы радок.
куча камней — крушня
масляная краска — алейная фарба
между нами — між нас
мелкий хворост — хлуд, тру́сак
металлическая банка — бляшанка
мочевой пузырь — капшук
на осадном положении — у стане аблогі
научный работник — навуковец
не представляется возможным — не выпадае
обращать внимание — зважа́ць
обслуживающий персонал — абслуговы персанал, абслуга
оконная замазка — кіт
окружающая среда — наваколле (навакольнае асяроддзе)
падающая звезда *(метэор)* — знічка
парное молоко — сырадой
переплетная мастерская — кнігашытня
поваренная соль — спажыўная соль
подведение итогов — падагульненне вынікаў
под конец — на астатак
пожать руку — паруқа́цца
по крайней мере — прынамсі
по сей день — да гэтага дня
потому что — бо
прийти к согласию — дайсці (прыйсці) да ладу (да згоды)
принимать меры — ужываць (рабіць) за́хады
принимать участие — браць удзел
приносить пользу — даваць карысць
присвоить звание — надаць годнасць
проводить время — бавіць час
растительное масло — алей
русская печь — ва́рыстая печ
своими глазами (ушами) — на свае вочы (вушы)
слесарная мастерская — слясарня
сливочное масло — масла
стеклянная банка — слоік
столярная мастерская — сталярня
только и всего — і толькі таго
три с половиной — паўчварта́
уделять внимание — аддаваць увагу
чуть не — траха не

# ДЭМАКРАЦЫЯ І РЭЛІГІЯ

Прачытаўшы у № 4-ым «Наша Слова», рэпартаж М. Супрановіча з канферэнцыі «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення» пад загалоўкам «Што мы пакінем дзецям», у мяне ўзніклі пэўныя думкі, зь якімі я хочу падзяліцца з чытачамі НАШАГА СЛОВА.

Гэты бюлетэнь зьяўляецца бязьмерна карысная публікацыяй — крысталізатарам адраджэнскай ідэі, неабходнай у змаганьні за дзяржаўнае становішча беларускай мовы.

Шмат прамоўцаў на канферэнцыі істотна абмяркоўвалі моўную праблему на Бацькаўшчыне і даюць свае праекты, што рабіць, каб уратаваць народ ад згубы.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць катэгарычныя цьверджаньні міністра народнай адукацыі БССР, Міхаіла Дзямчука, «... не можа быць альтэрнатывы ў выбары мовы... ёй павінна стаць родная мова» і Алега Трусава, кандыдата гістарычных навук: «Заявы бацькоў не павінны прымацца пад увагу, калі чалавек запісаны ў пашпарце, што ён беларус».

Беларускі народ знайшоўся ў такім становішчы, што яму пагражае моўная і нацыянальная катастрофа і ў такіх абставінах меры ратунку і лячэньня мусяць быць радыкальныя.

Тут можа здавацца, што такое стаўленьне справы ня ёсьць вельмі дэмакратычнае, але, што ж ёсьць дэмакрацыя? Зразумела, што гэта ёсьць антытэза анархіі, дыктатуры, партакрацыі і прыватнага інтарэсу адзінак, ці груповак, калі іхнія інтарэсы ня ёсьць згодныя з законам дзяржавы. Дэмакрацыя гэта — дзяржаўная сыстэма праўленьня, дзе законы зробленыя пераважаючай часткай грамадзянаў, забавязуюць усіх жыхароў дзяржавы і, пакольк і, у суверэннай БССР пражывае яшчэ большасьць беларусаў, то і законы мусяць быць беларускія і ў інтарэсе Беларусі. Таму Закон пра Мову павінен быць радыкальны. Не беларуская мова, як прадмет у расейскіх школах, ці польскіх, а іншыя мовы як прадмет у беларускіх школах, павінны стацца ўрадавай палітыкай.

Гэта ёсьць дэмакрацыя, а калі грамадзяне станацца сьвядомыя, лагодныя і нацыянальна «здаровыя», тады можна дапусьціць лібэралізацыю. Можна будзе адчыняць расейскія, польскія, нямецкія і іншыя школы, якія ўжо ня будуць шкодзіць беларускаму народу, але ўзбагачаць яго культуральна.

Беларускі Народны Фронт, Таварыства Беларускай Мовы і іншыя школы, якія ўжо ня будуць шкодзіць беларускаму народу, але ўзбагачаць яго культуральна.

Беларускі Народны Фронт, Таварыства

*Заканчэнне на 12-й стар.*

Генадзь САГАНОВІЧ.

# «ЛІТВА! МАЯ АЙЧЫНА!..»

(Заканчэнне. Пачатак у № 8)

Такім чынам, паводле М. Ермаловіча, летапісная Літва ляжала якраз паміж асноўнымі этнічна беларускімі землямі — Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай*. Як жа было суседнім княствам не мець палітычных інтарэсаў у дачыненні да гэтага паганскага краю з ваяўнічымі жыхарамі ды надзвычай важным, можна сказаць стратэгічным, месцазнаходжаннем? Пэўна, Літва была ў цэнтры іх дыпламатычнай увагі. Таму й не здаецца дзіўным, што калі ў 1240-х гадах адзін з галоўных літоўскіх князькоў Міндоўг з прычыны ўнутраных разладаў перабег у Навагародак і прыняў там хрысціянства, феадалы гэтага беларускага горада адразу ж абралі яго сваім князем ды скарысталі для падпарадкавання Літвы. З дапамогаю навагародцаў Міндоўг даволі хутка заваяваў усю добра вядомую яму зямлю — «Літву зане», як адзначыў тое летапісец.

У доўгай зацятай барацьбе з галіцка-валынскімі, жамойцкімі ды нальшчанскімі князямі Міндоўг і ягоны сын Войшалак змаглі ўтрымаць за сабою Літву і зацвердзіцца на Навагародскім пасадзе. Пазней Войшалак падпарадкаваў суседнія балцкія землі — Дзяволтву ды Нальшчаны, а яшчэ па якім часе ўладу Навагародка дабраахвотна прызнаў і полацкі князь Ізяслаў. Яшчэ раней гэта зрабіў Пінск.

Вось гэтае дзяржаўнае ўтварэнне — аб'яднанне Літоўскай зямлі, Нальшчанаў, Дзяволтвы, Піншчыны ды Полаччыны вакол Навагародка — і з'явілася першым этапам збірання Вялікага княства Літоўскага, фактычна — ядром гаспадарства. Ад самага пачатку беларускія землі былі ў цэнтры новай дзяржавы (у адрозненне ад балцкіх, якія падпарадкоўваліся сілай), а Навагародак стаўся ейнай сталіцай*.

Наступнік Войшалка Трайдзень гэтаксама княжыў з Навагародка. Ён адбіваў напады нямецкіх рыцараў і галіцка-валынскіх князёў, хадзіў на палякаў ды збіраў землі падбітых яцвягаў. Пад канец XIII стагоддзя пры князі Віцені ў склад княства ўвайшла Берасцейская зямля, а пазней — увесь поўдзень Беларусі. За часы княжання Віценевага брата Гедзіміна да Вялікага княства Літоўскага далучылася большая частка этнічна беларускай тэрыторыі. Важна падкрэсліць, што гэтае далучэнне мела сваёй асновай узаемную дамову, якая гарантавала захаванне «старыны» — традыцыйных формаў уласнасці, ранейшага мясцовага самакіравання ды сацыяльных дачыненняў.

У 1323 годзе Гедзімін перанёс сталіцу гаспадарства з Навагародка ў Вільню. Вось з таго часу, відаць, і назоў Літва пачаў распаўсюджвацца на поўночны захад.

Тэрытарыяльнае фармаванне Вялікага княства Літоўскага завяршылася ўключэннем у гаспадарства астатніх беларускіх земляў: левабярэжжа Дняпра — пры Альгердзе, і Смаленшчыны — пры Вітаўце. У выніку ў XV стагоддзі яно складалася з усёй этнічнай Беларусі, Аўкштоты ды Жамойці, асноўнай тэрыторыі Украіны ды часткі цяперашняй Расіі. Гэта была магутная цэнтралізаваная дзяржава Еўропы з поліэтнічным насельніцтвам.

Пры Вітаўце, у часы найбольшых тэрытарыяльных набыткаў, беларусы ды ўкраінцы займалі прыкладна дзевяць дзесятых плошчы княства. Нават у XVI стагоддзі, калі абсягі гаспадарства моцна скараціліся ад стратаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай і пасля пастановы Люблінскага сойму 1569 года, якая передала ўкраінскія землі Польшчы, продкі сучасных літоўцаў займалі ўсяго толькі шостую частку тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

Выходзіць, у вялізнай дзяржаве, вядомай па ўсёй Еўропе пад найменнем Літва, абсалютна дамінавала беларускае насельніцтва. Беларускі элемент непадзельна панаваў тады і ў культурным жыцці княства. Пра тое ўскосна сведчаць і выказванні еўрапейскіх сучаснікаў, якім давялося пазнаёміцца з гэтай дзяржавай або шмат чуць пра яе. Прыкладам, Ян Норык з Нюрнберга ў 1511 годзе ў геаграфічным нарысе адзначаў, што Літва — дзяржава славянская, у 1538 годзе пра тое самае напісаў Ян Багемскі, затым іншыя аўтары. Славянскі характар Вялікага княства Літоўскага адчуваецца і па актах панскай канцыляры XV стагоддзя.

Баяры ды ўвесь двор вялікага князя ў Вільні карысталіся беларускаю моваю яшчэ да Ягайлы і Вітаўта. А сам Ягайла (як даводзяць даследаванні Ю. Клоса ды А. Пятрушэвіча) гаварыў па-беларуску нават па пераездзе ў Кракаў на польскі пасад у 1386 годзе. Іншыя вялікія князі з дынастыі Ягайлавічаў гэтаксама карысталіся старой нашай мовай. Баяры балцкага паходжання цягнуліся да вышэйшай беларускай культуры, пераймалі хрысціянскую веру. Ужо ў XIV стагоддзі болей як паўсотні аўкштоцкіх князькоў прынялі праваслаўе, перайшлі на беларускую мову.

Хваля асіміляцыі балтаў няўхільна рухалася на паўночны захад яшчэ і ў XVI стагоддзі. Буйныя аўкштоцкія ды жамойцкія магнаты, як Гаштольды, Пацы ды іншыя, ужыліся ў беларускую культуру. Беларускія ж магнаты — Сапегі, Радзівілы, Валовічы, Глябовічы, Алелькавічы, Хадкевічы, Храбтовічы, Ільінічы, Неміровічы, Друцкія, Лукамскія — набывалі штораз большую вагу ў грамадска-палітычным жыцці дзяржавы. У XVI стагоддзі яны сталі ўваходзіць у гаспадарскую раду, займаць пасады мітрапалітаў ды епіскапаў.

Аднак бясконцыя войны княства з Маскоўскай дзяржавай, якія праз XVI і XVII стагоддзі разбуралі найбольш гаспадарку Беларусі ды вынішчалі перадусім беларускае насельніцтва (асабліва катастрафічная па выніках вайна 1654—1667 гадоў), настолькі знясілілі краіну, што перапынілі яе развіццё, абумовілі шырокую паланізацыю, а затым — заняпад і страту самастойнасці.

Дык хіба ж «заваяванай літоўскімі феадаламі» была Беларусь, хіба «пакананымі» былі беларусы ў вялікай Літве — Вялікім княстве Літоўскім? Пададзеныя факты пярэчаць гэтай састарэлай імперскай версіі. На самой справе да заняпаду Вялікага княства Літоўскага Беларусь увасабляла ў ім свой суверэнітэт. І гістарычны назоў княства — Літва — для яе ня менш, а нават больш



Беларускі цяжка ўзброены вершнік XIII стагоддзя. Малюнак Уладзіміра Лукашыка.

«свой», чымся для Аўкштоты ды Жамойці, бо менавіта на беларускіх землях спачатку пашыралася і замацоўвалася гэтае найменне, а на тэрыторыю Аўкштоты перайшло пазней. Што ж да ўласна Жамойці, дык тая заўсёды аддзялялася ад Літвы. Яшчэ ў XIII стагоддзі паміж ёю і Літвою пралёг цень варожасці. Асобнай і часам варожай Літве зямлёю разглядаў яе храніст Пётра Дузбургскі ў сваёй «Хроніцы Прускай зямлі» (1326 г.). Гэтакай бачыў Жамойць і вялікі князь Вітаўт. У дакументах 1506 года пра межы гаспадарства з Лівоніяй Жамойць вылучана з Літвы як самастойная зямля. Самі жамойцы ў XVI стагоддзі актыўна дамагаліся, каб вялікі князь пацвердзіў непарушнасць былых межаў, што аддзялялі Жамойць ад Літвы.

Прачытаўшы ўсё гэта, скептычны, дапытлівы чытач засумняваецца: ці магло такое быць, каб найменне нейкага там племя гэтак мяняла сваё значэнне, пераходзіла на магутныя дзяржавы ды вялізныя тэрыторыі? А вось жа магло. І гісторыя ведае нямала падобных прыкладаў. Зваяваныя нямецкімі рыцарамі прусы — нешматлікія балцкія плямёны, што жылі паміж Віслай і Нёманам на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, далі свой назоў вялікай нямецкай дзяржаве Прусіі. А слова рымлянін, якое напачатку было найменнем толькі грамадзян поліса Рым «романі», у часы Рымскай імперыі азначала ўжо ўсіх італікаў і нават людзей нелацінскага паходжання, — жыхароў правінцый. Калі ж хрысціянства стала дзяржаўнай рэлігіяй імперыі, дык усе прыхільнікі афіцыйнага веравызнання склалі адну вялікую супольнасць візантыйцаў, аднак самі сябе лічылі «рамеямі», а размаўлялі па-грэцку. Хоць сярод гэтых «рамеяў» былі і славяне, і сірыйцы, і армяне... Нарэшце, у XIX стагоддзі далёкія нашчадкі былых падняволеных Рымскай імперыі, выселеных калісь на тэрыторыю Дакіі, назвалі сябе румынамі, што азначала таксама «рымляне».

Такім чынам, Літва гістарычная і Літва цяперашняя — зусім не тоесныя. Нават геаграфічна. Трэба памятаць аб прынамсі двух значэннях гэтага наймення: цяперашняя Літва (Летува) — рэспубліка з народам, што размаўляе па-літоўску (саманазоў — летувіс), а гістарычная Літва — гэта магутная феадальная дзяржава, у якой большую частку тэрыторыі, што сягала на 304 600 квадратных кіламетраў, насялялі беларусы (тагачасны назоў — ліцвіны).

Дарэчы, каб пазбягаць тэрміналагічнай блытаніны, варта прыслухацца да парады польскага гісторыка Ф. Канечнага, які яшчэ ў 1929 годзе прапанаваў пад назовам «Літва» разумець усе землі Вялікага княства Літоўскага незалежна ад этнічнай прыналежнасці насельніцтва, што іх насяляла, а неславянскую частку гэтай дзяржавы называць «Летува», «як сама сябе заве».

Але зноў вернемся да самых вытокаў гісторыі таямнічага народа, што тысячагоддзем таму з'явіўся — цяпер ужо ведаем — у лясах беларускага Панямоння. Што за плямёны гэта былі? Адкуль яны паходзілі, дзе іхныя карані?

Афіцыйная гістарычная навука, асабліва сучасныя літоўскія даследчыкі, бяз долі сумневу абвяшчаюць «літву» балцкай. Этымалогія гэтага слова найчасцей выводзіцца ад гідроніма «Летаўка» — назвы прытоку Віллі, што цячэ пад Кернавай. Аднак, па-першае, старажытныя крыніцы засведчылі славянскую форму этноніма — «Літва», «Летува», па-другое, на тэрыторыі Беларусі ў басейне Верхняга Нёмана вядома ажно пяць (!) якраз такіх тапонімаў — «Літва». Пакуль што бясплённымі былі і спробы вытлумачыць з балцкіх моў самую назву этнаса ды асабовыя імёны старажытналітоўскіх князёў.

А ці не «прачытваюцца» яны, гэтыя імёны, з якой іншай мовы? Яшчэ ў 1881 годзе прафесар В. Юргевіч паспрабаваў вытлумачыць іх зыходзячы са славянскіх, а дакладней нават праваслаўных традыцый. Атрымалася, што імя Ягайла — гэта тое самае, што і Якаў, Альгерд — гэта Аляксандр, Мінгайла — Міхайла, Кейстут — Канстанцін, Кастусь, Яўнут — Іванютка — Іванютка, Іван і г. д. На карысць славянскага паходжання Гедзімінавічаў — княскай дынастыі Літвы — істотныя аргументы падае М. Ермаловіч. Выявілася, што Гедзімін і ягоныя браты Віцень ды Воін маглі паходзіць непасрэдна ад полацкай княскай дынастыі.

Яшчэ адну версію распрацаваў беларускі эміграцыйны даследчык Л. Галяк. У брашуры «Паходжанне літоўскіх князёў», што выйшла ў 1983 годзе ў Нью-Ёрку, ён тлумачыць княскія імёны пры дапамозе скандынаўскіх моўных каранёў ды паказвае старажытную Літву скандынаўскай. Імя Мантвіл Л. Галяк расчытаў як «Моцная Воля», Альгерд — «Той, што ўсё чуе», Кейстут — «Леваручны», Буйвіл — «Вялікі Лук» і г. д.

Найноўшыя і найбольш арыгінальныя думкі наконт паходжання «Літвы» зусім нядаўна выказаў даследчык з Якуціі І. Ласкоў. Гэты аўтар паспрабаваў абгрунтаваць уласную здагадку аб тым, што продкамі Літвы маглі быць фіна-вугры.

Чаму менавіта фіна-вугры, а не які іншы этнас? Не выпадкова. Фіна-вугорскія плямёны абсягам свайго рассялення яшчэ ў дагістарычныя часы з поўначы ахоплівалі і тэрыторыю сучаснай Беларусі. У пэўным сэнсе яны дапаўнялі балцкую субстратную аснову, на якой з прыходам славян пачаўся этнагенез беларусаў.

І. Ласкоў звярнуў увагу на адну з яшчэ жывых найбольш архаічных фіна-вугорскіх моў ды адшукаў у ёй мноства гідронімаў дакладна такіх, як на Беларусі — Ула, Уса, Рутка, Тур'я... Знайшліся блізкія ці зусім аднолькавыя часткі словаў, карані асабовых імёнаў. Паводле рэканструкцыі І. Ласкова, назоў Літва азначае «Племя пяці рэк» (або пяці родаў), імя Жыгімонт — «Страшны Чалавек», Скірмонт — «Злы Чалавек», Зэльва — «Дажджавая Вада» і г. д.

Што праўда, новае тлумачэнне, пры ўсёй яго прывабнасці, вельмі слаба абгрунтаванае. З пункту гледжання навуковай логікі яно мае нямала сур'ёзных хібаў. Але сама гіпотэза пра фіна-вугорскае паходжанне «літвы» заслугоўвае ўвагі даследчыкаў.

Такім чынам, маленькая летапісная Літва, што дала назоў магутнай дзяржаве феадальнай Еўропы і двум народам — спачатку нашым продкам, беларусам-ліцвінам, а затым насельніцтву цяперашняй Літвы (Летувы) — летувісам-жамойцам, усё яшчэ хавае таямніцу свайго паходжання.

---

* Больш падрабязна пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага можна пачытаць у кнізе М. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа», другое выданне якой выходзіць на пачатку наступнага года ў выдавецтве «Навука і тэхніка».

# Няхай радуе роднае слова

*Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.*

мова» і аказанне дапамогі ў стварэнні таварыства беларускай мовы.

Што ж зроблена ў гэтым напрамку? Мною быў створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы праекта праграмы мерапрыемстваў па выкананні Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР» і абласной праграме «Родная мова». У складзе аргкамітэта былі загадчыца метадычнага кабінета ГАРАНА Вольга Іванаўна Андрушчанка, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ № 6, дэпутат Ванда Іванаўна Мацкевіч, бібліятэкар прафсаюзнай бібліятэкі будаўніча-мантажнага трэста № 4 Таццяна Іванаўна Клешчанок, адказны сакратар таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, дэпутат Віктар Канстанцінавіч Шаць, начальнік лабараторыі завода аптычнага станкабудавання, дэпутат абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў Ягор Вацлававіч Лявіцкі і іншыя.

Прадстаўнікамі гэтых калектываў, дэпутатамі былі выпрацаваны мерапрыемствы гарадскога Савета народных дэпутатаў паводле выканання Закона БССР "Аб мовах у Беларускай ССР" і абласной праграмы «Родная мова», якія ў верасні зацверджаныя калегіяй гарадскога Савета.

На гэтым жа пытанні адбыўся сход прыхільнікаў беларускай мовы, на якім зацверджаны Статут аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны і выбрана Рада, якая больш грунтоўна будзе займацца прапагандай роднай мовы і выкананнем рашэння гарвыканкома па гэтым пытанні.

Жыве родная мова. Няхай жа яна радуе нас не толькі добрымі творамі пісьменнікаў, але і гутаркай, песнямі, гамонкай вучняў.

Аляксандр ВЯРЦІНСКІ,
намеснік старшыні Смаргонскага гарвыканкома, народны дэпутат Беларускай ССР.

# ВУС, ВУСІК... УСАЎ

Алесь КАЎРУС

Праблема акрэсліваецца загалоўкам: перадача на пісьме прыстаўнога *в* у прозвішчах. Прыстаўныя гукі, у тым ліку *в*, — яскравая фанетычная рыса беларускай мовы. Ведаем ад школьных гадоў: перад націскным *о* і карэнным *у* ў спрадвечна беларускіх словах пішацца *в*: вока, ворыва, вус, вусік, вусаты, вуха. Правамерна лічыць, што і прозвішчы, якія паходзяць ад агульных назоўнікаў, павінны захоўваць пачатковае *в*. Гэта пацвярджаецца маўленчай практыкай.

У Крупскім раёне бытуе прозвішча Вусік. У такой форме яно ўжываецца ў гаворцы жыхароў вёскі Дзянісавічы, у саўгаснай (рускамоўнай!) дакументацыі. Трапляецца прозвішча Вусік на старонках раённай газеты «Ленінскім курсам» (гл., напрыклад, нумары за 19.09.89, 18.01.90, 23.01.90), штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» (31.03.89): «Нам пішуць ленінградзец Р. Лобаў, рыжскія беларусы, члены грамадскага таварыства «Світанак» У. Вусік і А. Грышкевіч».

Аналагічныя моўныя факты выяўляем у творах мастацкай літаратуры — аўтарытэтнай і надзейнай крыніцы вывучэння роднай мовы. У паэме Якуба Коласа «Новая зямля» дзеці некалькі разоў прамаўляюць мянушку Вухін.

— Глядзі, глядзі! хто гэта едзе? —<br>
Алесь ускочыў, пазірае<br>
— І локцем Костуся таўхае.<br>
— Ды гэта ж Вухін, брат! ён самы! —<br>
І хлопцы кінуліся ў браму,<br>
Бягуць навыперадкі ў хату.<br>
— Ужо Вухін едзе! Вухін, тата!<br>
— Цыц! не смець казаць мянушку...

Як дадатак да прозвішча ўжыта гэтая мянушка і ў аўтарскай мове: «Андроцкі-Вухін пад'язджае». Звернем увагу таксама на прозвішча Ворцюх з названага твора: «Памдзей» аб'ездчык быў няшкодны:// Так, чалавек ён старамодны// І не такі, як Ворцюх, зыркі,// і меней здольны на прыдзіркі // І на падкусы, і на ўданне//, За што й вагі ён не меў звання.// Вось Арцюшок — о, гэта скула!» Побач з варыянтам Арцюшок добра відаць, што ў слове Ворцюх ёсць прыстаўное *в*. У кантэксце распачатай гаворкі лёгка і дарэчы прыходзіць на памяць Мікіта Ворчык — персанаж паэмы А. Куляшова «Сцяг брыгады».

Важна адзначыць і наступнае. У помніках старажытнага беларускага пісьменства зафіксаваныя мянушкі-прозвішчы Вус, Вусок, якія выкарыстоўваюцца паралельна з Ус, Усок (Бірыла М. Беларуская антрапанімія). Першыя варыянты адлюстроўваюць жывое народнае вымаўленне, другія — усходнеславянскую пісьмовую традыцыю.

Такім чынам, у беларускай мове існуюць уласныя назвы з прыстаўным гукам *в*. Але большаю часткаю гэтая фанетычная адметнасць, асабліва ў прозвішчах, не перадаецца. Звычайна пішуць: Ус, Усаў, Усаты, Усікаў, Ушаў, Ухаў.

Арфаграфічны разнабой тлумачыцца недасканальнасцю аднаго з «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959), паводле якога ва ўласных імёнах перад пачатковым карэнным *у* (націскным ці ненаціскным) і перад пачатковым карэнным націскным *о* прыстаўное *в* не пішацца. Сярод прыкладаў даюцца імёны Ольга, Осіп. У беларускай жа мове гэтыя найменні ўжываюцца з прыстаўным *в*, і таму аўтары «Арфаграфічнага слоўніка» М. Лобан і М. Суднік мусілі прапанаваць напісанне Вольга, Восіп.

Фармулюючы згаданае правіла, мовазнаўцы бралі пад увагу не так уласна лінгвістычныя фактары, як адміністрацыйна-канцылярскія падставы. Вядома, што справаванне на Беларусі вядзецца па-руску не адно дзесяцігоддзе і нават стагоддзе. У такіх умовах нацыянальныя беларускія прозвішчы нярэдка падпраўляліся, перайначваліся на ўзор рускіх, украінскіх ці іншамоўных — на слых і густ таго, хто запісваў. Цікавае сведчанне паэта А. Вялюгіна:

«На хвойным пагосце за вёскай Івоні адшукаю магілу па надпісу: «Цярэшка Вялюга». Гэта мой дзед. Калі пасля дзедавай смерці забрывалі ў салдаты, царскі прыстаў, мусіць, меў нейкае дачыненне да філалогіі, і з яго дзяржаўнай ласкі Вялюгі займелі ў канчатку яшчэ адну літару. Вось і я хаджу з ёю» («Пад ветразем у полі»).

Перарабліванне прозвішчаў адбываецца і ў наш час. Верабей пераўтвараецца ў Варабей (Вараб'ёў), Галка — у Галко, Пчолка — у Пчалко, Гарачка — у Гарачко, Ашмян — у Ошмян, Лявончык — у Ляончык, Сухі — у Сухій. Дык няма дзіва, калі нехта думае, што прозвішча тым больш мілагучнае, высакароднае, чым яно менш беларускае.

Сэнс гэтай публікацыі зводзіцца да таго, каб, удасканальваючы правапіс уласных імёнаў і прозвішчаў, улічваць самабытны характар беларускай мовы, не парушаць яе натуральнасці. На нашу думку, мэтазгодна пісаць прыстаўное *в* у прозвішчах тыпу Вусоўскі, Вусаты, Вуглікаў, Вуглоўскі, Вухналёў, Вучыцель, Вострыкаў, Ворыва. Зразумела, прынцыпы адбору (і, мажліва, спіс) такіх слоў патрабуюць дэталёвай распрацоўкі.

Пэўную ступень «узаконення» прыстаўнога *в* замацоўвае «Арфаграфічны слоўнік», дзе даюцца прозвішчы Белавусаў, Макравусаў, Карнавухаў, Астравумаў, Навуменка, Лявонцьеў. Праўда, фанетычная асаблівасць тут прыхаваная, у сярэдзіне слоў. Пішам, гаворым як бы асцерагаючыся ці саромеючыся!

Тое, што прыстаўное *в* істотна змяняе пачатак слоў-прозвішчаў (Усаў—Вусаў, Ухналёў— Вухналёў), — бадай, галоўнае пярэчанне супраць яго напісання. У гэтай сувязі трэба напомніць: па-беларуску запісаныя прозвішчы істотна адрозніваюцца ад рускіх адпаведнікаў і іншымі пачатковымі літарамі (гукамі): Абразцоў, Абухаў (рус. Образцов, Обухов), Ясенін, Яршоў (рус. Есенин, Ершов), Уладзіміраў, Урубель (рус. Владимиров, Врубель), Ціміразеў, Ціхаміраў (рус. Тимирязев, Тихомиров).

Важкім аргументам на карысць прыстаўнога *в* у прозвішчах з'яўляецца практыка напісання назваў паселішчаў: Восава, Вострава, Вуглы, Вузла, Вузляны, Вусаў, Вусце, Вуць (БелСЭ, т. 3), Воступ, Вохабні, Вугалец, Вужанка, Вузнаж, Вусаўшчына, Вуткі (Рапановіч Я. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці).

Аўтар нататкі разумее, што пакуль наша мова не стане сапраўды паўнапраўнай, дзяржаўнай, датуль яе сродкі будуць кваліфікавацца, ацэньвацца ў вялікай меры не паводле іх прыродных уласцівасцяў і камунікатыўных якасцяў, а з пункту гледжання таго, наколькі яны адпавядаюць заканамернасцям, традыцыям і вымогам «вялікай і магутнай», а цяпер яшчэ і «афіцыйнай» мовы. Але сітуацыя пакрысе мяняецца. Неабходнасць звароту да жывой мовы сёння «падказваецца» не толькі сумленнем навукоўца, а і дзяржаўнымі актамі. У законе «Аб мовах у Беларускай ССР», у прыватнасці, гаворыцца: «Беларускія асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца адпаведна нацыянальнай іменаслоўнай традыцыі і законам беларускай мовы».

Як бачым, праблемы ўжывання прозвішчаў актуальная, тым болей што ў друку выказваюцца прапановы зрабіць удакладненне ці нават рэформу беларускага правапісу.

# Адраджэнскі марафон

Як вядома, з 24 жніўня па 2 верасня 1990 года ўключна ў межах скарынаўскага свята адбыўся 10-дзённы 1000-кіламетровы лёгкаатлетычны прабег «Спадчына». Ён быў праведзены па ініцыятыве Беларускага спартыўна-патрыятычнага клуба звышмарафона «Радзіма» і сіламі гэтага клуба пры актыўнай арганізацыйнай і спонсарскай падтрымцы Дзяржкамспорта і Мінкульта БССР, Беларускага фонду культуры, Беларускага саюза евангелічных хрысціянаў-баптыстаў, БНФ «Адраджэньне», Белсавета УДФСА прафсаюзаў, Мінгарспорткамітэту і іншых арганізацыяў.

Як праходзіў прабег — пра тое ўжо расказвалася на старонках друкаваных органаў, а таксама Беларускім тэлебаннем і радыёвяшчаннем. Мэта гэтай нататкі — расповяд пра звышмарафон з пункту гледжання беларускасці.

...відаць, першае пытанне, якое могуць задаць чытачы «Нашага слова» аўтару нататкі, камандзіру прабега «Спадчына» і намесніку старшыні БСПКС «Радзіма»: а пры чым спартыўны клуб да свята ў гонар угодкаў Францішка Скарыны і наогул да справаў і праблемаў беларускага нацыянальнага адраджэння? Калі мовіць каротка, то можна цікавасць чытачоў задаволіць наступным адказам: клуб звышмарафона «Радзіма» не толькі спартыўны, але і патрыятычны.

Звышмарафонцы — гэта грамадзяне сваёй рэспублікі, і яны выдатна разумеюць: кожны чалавек на сваім месцы ў жыцці, працы, захапленні павінен унесці асабісты ўклад у справу адраджэння Беларусі. І ўся патрыятычная работа сёння павінна перш-наперш весціся менавіта ва ўмовах адраджэння. Таму і маршрут прабега быў выбраны даволі красамоўны: «Мінск—Заслаўе—Стоўбцы—Акінчыцы—Альбуць—Нясвіж—Мір—Навагрудак—Ліда—Вільнюс—Ашмяны—Маладзечна—Мядзель—Полацк—Лепель—Мінск». Помнікі гісторыі, культуры і літаратуры, звязаныя не толькі з рэлігіяй, але і з імёнамі выдатных людзей Беларушчыны — Ефрасінняй Полацкай, Сімяонам Полацкім, Францішкам Скарынам, Кастусём Каліноўскім, родам Радзівілаў, Францішкам Багушэвічам, Якубам Коласам і Янкам Купалам — гэта было сапраўднае залатое кола рэспублікі.

І калі напачатку прабега сёй-той з маіх сяброў скептычна ставіўся да ідэі прабега (таксама: ну пры чым тут спорт?), дык ужо ў канцы прабега некаторыя з іх як, напрыклад, Віктар Новік і медсястра Еўдакія Іванкова размаўлялі на чыстай літаратурнай беларускай мове. Старшыня клуба «Радзіма» падпалкоўнік Савецкай Арміі Сяргей Собалеў усур'ёз зацікавіўся гісторыяй Беларусі і нашай нацыянальнай літаратурай. Аляксандр Кізіл, малдаванін па нацыянальнасці, пачаў падзяляць погляд Беларускага народнага фронту на пытанні духоўнага і фізічнага адраджэння рэспублікі і разам са мной бег па трасе ў майцы з «Пагоняй» (тры такія апранахі нам у прабег ахвяравалі фронтаўцы), а цяпер не расстаецца з белчырвона-белым сцяжком...

Карацей, кожны з нас пасля гэтага звышмарафона стаў патрыётам рэспублікі, зразумеў, што трэба ратаваць народ ад духоўнага Чарнобыля.

Мы захапляліся «коласаўскай дарогай» ад Стоўбцаў да Альбуці, уздоўж якой народныя майстры паставілі каля дзвюх дзесяткаў драўляных скульптураў — герояў паэмы народнага песняра «Новая зямля».

Мы абураліся тым, што Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс, які дастаўся ў спадчыну беларускаму народу ад князёў Радзівілаў, працяглы тэрмін быў санаторыем знакамітага 4-га ўпраўлення аховы здароўя, замест таго, каб зрабіцца цэнтрам турызму рэспублікі, цэнтрам адмысловай архітэктуры Беларусі.

Мы, заходзячы ў касцёлы, чулі польскую мову, а ў праваслаўных цэрквах — рускую. І нідзе не чулі беларускага слова. Гэта нас абражала і крыўдзіла...

Мы вельмі расчуліліся і ўсхваляваліся з прычыны вялікай увагі да нас кіраўнікоў Беларускага культурна-асветніцкага таварыства «Сябрына» ў Вільні, а таксам літоўскіх, польскіх, і беларускіх журналістаў з тамтэйшых газетаў і ТБ. Мы зразумелі, якую непапраўную памылку зрабіла сталіншчына ў гісторыі беларускага і літоўскага народаў, калі перадала калыску культуры і дзяржаўнасці Беларусі ў рукі нашых братоў. Бо тут, у Вільні, свае кнігі друкаваў Францішак Скарына, быў пазбаўлены жыцця Кастусь Каліноўскі, тут выходзіла «Наша ніва», зборнікі купалаўскіх вершаў, тут працаваў на развіццё беларушчыны Віленскі універсітэт.

А колькі цікавага мы даведаліся пасля наведвання Полацка—Сафіі, Спас-Ефрасінеўскай царквы, карціннай галерэі, мясцовага краязнаўчага музею!

Мы ўбягалі ў гарады і вёскі, наладжвалі і мітынгі ў абарону беларускай мовы, культуры і гісторыі, канцэртная група беларусаў-бардаў тут жа, на шырокіх плошчах ладзіла вечарыны, спявала песні пра гаротную долю нашага краю, расказвала вершы, распавядала пра жыццё Францішка Скарыны.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**старшыня агітацыйна-прапагандысцкай камісіі Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, камандзір звышмарафонскага прабега «Спадчына».**

# Ахоўная зорка

**Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.**

паленым. Тут ужо і ён падняўся. Заходзім у кухню і бачым: гарыць сала на патэльні, а нашы ўсе смаркі ляжаць веерам на падлозе. Пераглянуліся і зарагаталі, а потым Караткевіч гаворыць: «Ну і кухары! У смарчках жа паветра, яны скачуць, як мячыкі. Давай, браце, зоймемся імі ўсур'ёз. А то і не пакаштуем грыбоў.»

Жыццялюб, мудрэц, чараўнік, фантазёр, ён стараўся ўсіх прывеціць, адарыць ласкаю, душэўным цяплом. А душа ягоная была невычэрпнай.

Аднак у душы Караткевіча жыла не толькі агромністая любоў да людзей. Была ў ёй і нянавісць, якая жывіла ягонае мужнае змаганне з цемрашаламі, невукамі, дзікунамі, хамамі, служкамі таталітарызму, якія імкнуцца «загнаць жалезнай рукой чалавецтва да шчасця». З якім сарказмам, з'едлівасцю высмейваў ён усю гэтую нечысць і навалач.

Многае ў жыцці, як і само яно, даецца чалавеку авансам у спадзяванні на тое, што ён, завітаўшы на нейкі час на зямлю з небыцця, зробіць яе лепшай, прыгажэйшай, адорыць людства часцінкай свайго розуму і дабрыні. Караткевіч за свой такі кароткі век сплаціў усе даўгі. Спаўна аддзячыў ён роднай зямлі, свайму народу і пакінуў запавет:

Калі мы не ўстанем самі —
Не падыме нас ніхто.

Пачытайце папярэднія заказы ў беларускіх кнігарнях. Усюды просьба: «Выдавайце кнігі Караткевіча.» Аўтары запісаў у пераважнай большасці — юнакі і дзяўчаты. І ў гэтых пажаданнях — ягоная неўміручасць.

Слова Уладзіміра Караткевіча абуджае страчаную беларусамі нацыянальную годнасць, свядомасць, дапамагае нам адчуць сябе роўным народам між іншымі. Яно і надалей заўсёды будзе ахоўнаю зоркаю над «зямлёю пад белымі крыламі».

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

## АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ

*прапанаваныя «Нашым словам» удзельнікам Свята з нагоды 500-годдзя Францішка Скарыны.*

**1. Які, на Вашу думку, галоўны ўрок Францішка Скарыны для яго сённяшніх і заўтрашніх чытачоў?**
**2. Ваш погляд на беларускую мову і яе сучаснае становішча ў рэспубліцы?**

# «БЕЛАРУСЬ ЖЫВЕ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ...»

І(а) Інтарэсы чалавека універсальныя. Біблія для Скарыны мела надзвычайную важнасць. Акрамя унікальнага рэлігійнага зместу, ён бачыў у ёй крыніцу ўсіх ведаў чалавека—мастацтва, музыкі, матэматыкі, астраноміі і медыцыны, не буду тут казаць пра ўсё астатняе. Хоць Скарына меў глыбокую пашану да навукі, да акрыццяў свайго часу і да сілы друкаванага слова, ён збярог незвычайную павагу да веры ў тое, што знаходзіцца па-за межамі навукі. Для яго не існавала непаразумення паміж рэлігійным пачуццём і навукай: вера стала штуршком да доследаў, якія, па сутнасці, вялі чалавека да ведаў і вышыняў мудрасці.

б) Скарынава вялікая пачцівасць у дачыненні да жыцця, без сумнення, цесна звязана з яго прафесіяй лекара і батаніка.

Сам чалавек ёсць частка жывога свету, які мае прыродныя інстынкты птушак, жывёл і рыб і шукае святла ў сваім уласным абліччы, нібы пчала ці матылёк, што лунае над свечкай, быццам нейкі знак. Яго ўсеабдымная цікавасць да жыцця і руху адлюстроўваецца не толькі ў некалькіх памайстэрску зробленых гравюрах — як, напрыклад, «умывальніца мядзяная» на спінах дванаццаці валоў, адлітая для Храма Саламона. Статычныя прадметы — сама «умывальніца мядзяная» і нерухомая паверхня вады, налітай у яе — прыцягваюць яго ўвагу, ды ў малой ступені. Яны дзіўна кантрастуюць з казачным жыццём — выявамі валоў, што пасвяцца ў полі і назіраюць за светам вакол сябе — а таксама з вадой, якая бяжыць з своеасаблівых кранаў, так як ў сапраўдным жыцці цячэ вада. Іншыя элементы проста паказаныя ў руху на трох самых значных Скарынавых гравюрах: агонь і дым падымаюцца над Іерусалімам, калі Ерамія аплаквае ягоны лёс, паветра ў выглядзе воблакаў ахутвае трон Хрыста, калі ён карануе Зямлю абетаваную, а гэтая Зямля паказана як сад, поўны ўсялякіх раслін, і над усім пануе вялікі Бог ва ўсёй сваёй мудрасці, а ўсё гэта вартае захаплення і малітваў полацкага доктара.

Любоў да ўсяго Сусвету вакол нас і разуменне жыцця ў нас і ва ўсіх жывых стварэннях — гэта, магчыма, адзін з галоўных урокаў Скарыны на векі вечныя.

2. Як і сама Беларусь, мова яе жыве і будзе жыць. Яе выракліся часова, адкінулі ўбок у часіну, якою завалодала аднастайнасць духоўнага інтэрнацыяналізму. Гэта больш відно і чутно сёння, чым некалькі дзесяцігоддзяў таму назад. Нават, як кажуць, лепей адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. На беларускай мове недастаткова вулічных шыльдаў, картаў, назваў магазінаў, аб'яў і газет. Надзвычай важна тое, што беларускія дзеці павінны гадавацца і бачыць усё вакол сябе на роднай мове. Гэта можа быць зроблена адносна танна і даволі хутка. Тое ж самае можна сказаць пра манументы і помнікі на вуліцах.

Славутыя рускія, такія, як Пушкін, Горкі і, што небясспрэчна, Луначарскі дастаткова ўшанаваныя ў сваёй краіне. Беларускія пісьменнікі, сярод іх Скарына, Еўлашэўскі, Чачот, Багушэвіч, Гарун ды Караткевіч, слынныя настаўнікі — Св. Ефрасіння Полацкая, Св. Кірыла Тураўскі, Фр. Марашэўскі, Кастусь Езавітаў, этнографы, — духоўныя бацькі сённяшняй Беларусі: Насовіч, Нікіфароўскі і Карскі; патрыёты і дзяржаўныя дзеячы Леў Сапега, Каліноўскі, Ластоўскі, браты Луцкевічы, княгіня Магдалена Радзівіл — усе яны павінны сустракаць кожнае дзіця па дарозе ў школу, на кожнай вуліцы і кожнай плошчы. Толькі пастаянна бачачы вакол сябе гэтыя імёны, дзеці адчуваюць сябе здольнымі да ўспрымання сваіх нацыянальных традыцый.

І каб зберагчы тую выразную двухбаковую Усходне-Заходнюю традыцыю Беларусі, унікальную сярод усходніх славян, назвы вуліц і плошчаў мусяць быць напісаныя двума шрыфтамі — кірыліцай і лацінкаю. Такая практыка будзе надзвычай высока ацэнена замежнымі бізнесменамі ды турыстамі. Толькі мова, якую відаць паўсюдна, будзе зброяй адраджэння беларускага ва ўсіх галінах жыцця.

**Гай Пікарда,**

**Лондан 18 верасня, 1990.**

## З вераю ў мову Скарыны

І. Асноўны змест усіх кніг Скарыны (нават калі аналізаваць толькі прадмовы да іх) відавочны і адназначны: існуе Бог, да якога чалавек павінен ставіцца з павагаю і паслухмянасцю.

ІІ. Паколькі я прафесійна займаюся вывучэннем гісторыі ўсходне-славянскіх моў, мае адносіны да беларускай мовы не пазбаўлены пэўнай эмацыянальнасці. Мне непрыемна адзначаць, што, на жаль, сёння не яна дамінуе сярод жыхароў сталіцы Беларусі — Менска (у мяне не было магчымасці праводзіць назіранні ў правінцыі), я вельмі цешыўся, калі ў час святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Францішка Скарыны бачыў шмат разоў (як у Менску, так і ў Полацку) — моцнае хваляванне і нават слёзы ў людзей, разам з якімі я ўдзельнічаў у святочных мерапрыемствах. Хочацца верыць, што гэты нялёгкі, але багаты надзеямі час створыць магчымасці больш шпаркага, чым дагэтуль, і больш шырокага развіцця мовы славутага Палачаніна.

**Веслаў ВІТКОЎСКІ.**
**Кракаў, Польшча.**

**Пераклад з англійскай і польскай моў**
**Л. БАРШЧЭЎСКАЙ.**

# ЧЫРВОНЫ ЖОНД

У Менску створаны Чырвоны жонд (Чырвоны ўрад) — арганізацыя моладзі, якая ставіць сабе на мэце прапагандаваць беларускую культуру, спрыяць сваёй дзейнасцю духоваму адраджэнню Айчыны. Згуртаванне мае свой Статут, сцяг. Ягоныя сябры — яны называюцца драбамі — маюць аднолькавую вопратку. Назоў арганізацыі паходзіць ад Чырвонага жонду, які ў мінулым стагоддзі на чале з Кастусём Каліноўскім змагаўся ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе супраць расейскага ярма. Узначальвае новае згуртаванне студэнт Алесь Шавель. Чырвоны жонд зарэгістраваны пры ЦК ЛКСМБ.

## Дзень Скарыны ў Вільні

Сямнаццатага лістапада ў Вільні прайшоў Дзень Францішка Скарыны, які віленскае спадарства пры падтрымцы тамтэйшых уладаў, а таксама беларусаў, што прыехалі з Рэспублікі, прысвяціла пяцьсотгадовым угодкам з дня нараджэння першадрукара. Пачаўся Дзень з набажэнства ў касцёле, якое вялося на роднай мове. Пасля набажэнства ад касцёла беларусы ўрачыста пайшлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі па старых вулках да дому былога бурмістра Бабіча, дзе адбыўся невялікі мітынг з нагоды адкрыцця мемарыяльнай дошкі. На ёй зробленыя выява вялікага асветніка ў профіль і надпіс на літоўскай і беларускай мовах: «З 1522 да 1525 году тут у горадзе Вільні беларускі асьветнік Францішак Скарына выдаў у Вялікім княстве Літоўскім першыя друкаваныя кнігі». На адкрыцці выступілі міністр культуры Літвы Дар'іс Куволіс, старшыня Дэпартаменту Нацыянальнасцяў Галіна Капыцкайтэ, першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савету БССР Станіслаў Шушкевіч, намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Міхась Ткачоў, прадстаўнік беларускай грамадскасці ў Вільні Лявон Луцкевіч, айцец Уладзіслаў Чарняўскі.

Пасля ў Палацы працаўнікоў мастацтва адбылося ўрачыстае паседжанне і канцэрт. Скончыўся Дзень імпрэзаю ў рэстарацыі «Паланга».

## Беларуская школка ў Казахстане

Першыя пяцьдзесят кніжак на роднай мове адпраўленыя з Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны ў Казахстан, дзе ў горадзе Прыазёрску на базе школы «60 гадоў Казахстана» адкрылася беларуская нядзельная школа. Заняткі там праводзяцца па трох прадметах: беларускай мове, беларускай літаратуры, беларусазнаўству (гісторыя, геаграфія, грамадазнаўства Беларусі). У ёй вучацца дзеткі пачынаючы з другога класа агульнаадукацыйнай школы. Арганізавала навучанне тамтэйшая сябрына ТБМ імя Францішка Скарыны.

Даслаць кніжкі на роднай мове для беларускіх дзетак у Прыазёрску можна па адрасе: 422200, КазССР Джезказганская обл., г. Приозёрск, ул. Панфилова, 3-29. Суднику С. В.

## Пакінулі з'езд

Дэлегаты ад Дэмакратычнай партыі Беларусі з Гародні пакінулі з'езд Аб'ўднанай Дэмакратычнай партыі Беларусі ў знак нязгоды з варожасцю новай партыі да пытанняў незалежнасці рэспублікі і з прычыны нігілістычнага стаўлення да беларускай мовы. З'езд аб'ўднаных дэмакратаў праходзіў 3—4 лістапада ў Менскім Палацы шахматаў і шашак. З прынятых дакументаў вынікае, што новая партыя не дамагаецца грунтоўных пераменаў у нацыянальным жыцці Беларусі.

# ДЗЯДЫ-90

Дзяды-90 пачаліся ў Менску трэцяга лістапада на плошчы Мяснікова шэсцем паўз увесь праспект да парку Чалюскінцаў. Каля МУС (дзе раней быў НКВД) у часе шэсця ўстаноўлены камень як памяць пра ахвяраў дыктатуры. У парку Чалюскінцаў, там, дзе ў сталінскія часы і ў гады Вялікай Айчыннай вайны расстрэльвалі беларусаў, адбыўся мітынг. На мітынгу была прынятая рэзалюцыя.

## Ухвала (рэзалюцыя) мітынгу-рэквіему «Дзяды-90»

Кіруючыся Дэкларацыяй «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР», імкненьнем адрадзіць культуру і гістарычную памяць народу, мы, удзельнікі мітынгу-рэквіему, лічым немагчымым і ганебным для нашае нацыянальнае годнасьці існаваньне ў Менску і іншых гарадах і мястэчках Рэспублікі вуліц, плошчаў, установаў і прадпрыемстваў, названых у гонар асобаў, якія не маюць заслуг перад беларускім народам і агульначалавечым прагрэсам. Ва ўмовах, калі ў сталіцы Рэспублікі і на ейных абшарах не ўшанаваныя імёны выдатных сыноў і дачок Беларусі — ад сьвятых Ефрасіньні Полацкай і Кірылы Тураўскага да дзеячоў нацыянальнага адраджэньня — лічым немагчымым захаваньне найменьняў, зьвязаных з тымі, хто выступаў супроць аднаўлення беларускае дзяржаўнасьці і стварэньня ня толькі Беларускае Народнае Рэспублікі, але і БССР, як Кнорын, Мясьнікоў, Ландар, з тымі, хто быў арганізатарам і выканаўцам палітыкі масавага тэрору, як Ленін, Дзяржынскі, Урыцкі і іншыя, або душыў нацыянальна-вызваленчыя паўстаньні нашых продкаў, як Сувораў.

Расцэньваючы захаваньне такога становішча як праяву імперскае каланіяльнае палітыкі, несумяшчальную з абвешчаным суверэнітэтам Рэспублікі, патрабуем:

1. Вярнуць сталіцы Рэспублікі гістарычную назву «Менск».
2. Надаць цяперашняму Ленінскаму прасьпекту ў Менску імя сусьветна вядомага гуманіста эпохі Адраджэньня беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны.
3. Неадкладна зьмяніць у г. Менску назвы вуліц Леніна, Кнорына, Мясьнікова, Ландара, Берсана, Дзяржынскага, Валадарскага, Урыцкага, Калініна, Сьвярдлова, плошчаў Леніна, Мясьнікова і Калініна, выкарыстаўшы ў новых назвах гістарычныя найменьні, імёны дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня Алеся Гаруна, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Аркадзя Смоліча, Усевалада Ігнатоўскага, Максіма Гарэцкага, Ларысы Геніюш, Антона і Івана Луцкевічаў і інш.
4. Перайменаваць станцыі метро Кастрычніцкую, «плошча Леніна», «парк Чалюскінцаў».
5. Спыніць у рэспубліцы ўстаноўку помнікаў Леніну. Дэмантаваць помнікі і мемарыяльныя дошкі ў гонар асобаў, дзейнасць якіх была накіраваная супроць самога існавання беларускага народу.
6. Ушанаваць памяць ахвяраў рэпрэсіяў мемарыяльнай дошкай на былым будынку НКВД па вул. Урыцкага.
7. Патрабуем ад Вярхоўнага Савета Рэспублікі, Мен-

*(Заканчэнне на 14 стар.).*

## Зняволенне скончылася

**Пасля шматгадовага тэрміну пакарання з ідэалагічных прычынаў п'еса Янкі Купалы «Тутэйшыя» нарэшце прыйшла да людзей. Прэм'ера спектакля адбылася семнаццатага кастрычніка ў Менску ў тэатры імя Янкі Купалы.**

# Рэй вядзе «Роднае слова»

Калі тры гады таму ў цэнтральную Наваполацкую бібліятэку на першыя заняткі курсаў беларускай мовы і культуры сабраліся ажно... сем слухачоў, у арганізатараў — літаратараў мясцовага аб'яднання «Крыніцы» (дарэчы, сабраліся мы тады ледзь не ўдвая большым саставам) настрой быў, мякка кажучы, не святочны. Але рашылі, хоць па два чалавекі будуць прыходзіць, ад задумы сваёй не адмаўляцца.

Пра гэта згадалася мне на нядаўнім адкрыцці чарговага навучальнага года ва універсітэце «Роднае слова», у які за гэты час ператварыліся нашыя сціплыя курсы. Перапоўненая зала ўважліва слухала паважаных гасцей — Ніла Гілевіча і Уладзіміра Арлова. Прыемна было бачыць сярод слухачоў і нашых «ветэранаў» — тых, хто наведваў універсітэт з самых першых лекцый, і зусім незнаёмых людзей, маладых і больш сталага ўзросту, якія, я спадзяюся, стануць цяпер вернымі нашымі сябрамі, далучацца да справы адраджэння роднай культуры.

Так, ад сціплага першапачатковага жадання навучыць людзей гаварыць па-беларуску, мы даволі хутка перайшлі да planамерных заняткаў па досыць шырокаму спектру беларусазнаўства — распрацавалі шэраг лекцый па гісторыі, літаратуры, мастацтву, этнаграфіі, этнагенезу і г. д. Першы вучэбны план складалі Уладзімір Арлоў і Лявон Баршчэўскі, яны ж і сталі першымі лектарамі разам з Ірынай Жарнасек, Сяржуком Сокалавым-Воюшам, нашымі шаноўнымі гасцямі Анатолем і Валянцінам Грыцкевічамі, Міхасём Ткачовым, Паўлам Лойкам, Кастусём Тарасавым, Артурам Вольскім, Рыгорам Барадуліным, Янкам Брылём, Генадзем Бураўкіным, Яўгенам Лецкам, Сяргеем Панізнікам, Валянцінам Блакітам і іншымі.

Увогуле, на мой погляд, гэтая неацэнная дапамога нашых вядомых вучоных і літаратараў дазволіла нам значна ўзняць і прэстыж універсітэта, і ўзровень яго заняткаў.

I вось новы навучальны год. Разам з Нілам Гілевічам і Уладзімірам Арловым на яго адкрыццё прыехаў таксама народны дэпутат БССР Лявон Баршчэўскі, які перадаў сваю «пасаду» рэктара старшаму выкладчыку Наваполацкага політэхнічнага інстытута, кандыдату філасофскіх навук Рыгору Грудніцкаму. Сёлета ў нашых планах больш глыбокае вывучэнне жыцця і дзейнасці славутых постацяў беларускай гісторыі, пачынаючы ад Ефрасінні Полацкай, а таксама семінары-канферэнцыі па найбольш надзённых пытаннях і праблемах; мерапрыемствы, звязаныя з 60-годдзем Уладзіміра Караткевіча, Багдановічаўскія чытанні, сустрэчы з рэдакцыямі рэспубліканскіх часопісаў. I, як заўсёды, мы спадзяёмся на нашых гасцей, сярод якіх, паводле папярэдняй згоды, будуць Аляксей Каўка з Масквы, Анатоль Вярцінскі, Леанід Дайнека, Алег Трусаў, Адам Мальдзіс з Мінска. Хацелі б мы бачыць таксама і шмат якіх іншых навукоўцаў, літаратараў і сардэчна запрашаем іх у Наваполацк.

Вядома, я далёкі ад замілаванасці і ўсцешанасці ад, так бы мовіць, поспехаў універсітэта. Не гэтак шмат, як хацелася б, у яго пакуль слухачоў. Амаль не сустрэнеш сярод іх культработнікаў горада, калі не лічыць гасцінных гаспадароў з цэнтральнай Наваполацкай бібліятэкі і адной з актывістак нашай рады ТБМ Людмілы Касьянавай. Хацелася б, каб больш наведвалі заняткі студэнты мясцовага інстытута, рабочыя, тэхнічная інтэлігенцыя, служачыя ўстаноў, якім і мова, і веды па гісторыі і культуры Беларусі спатрэбяцца ў самы бліжэйшы час, калі, я спадзяюся, запоўніцу пачне працаваць «Закон аб мовах у БССР».

Апошні перапіс насельніцтва шмат у чым развеяў міф аб Наваполацку як небеларускім горадзе. Амаль шэсцьдзесят восем з паловаю працэнтаў навапалачан — беларусы. I цяпер ранейшыя спасылкі некаторых асобаў, што, маўляў, тут трэба быць вельмі асцярожным з прапагандаю беларускай мовы і культуры, не маюць пад сабой трывалага грунту. Тым больш, што разам з вывучэннем мовы Скарыны і Купалы кіраўнікі універсітэта не адмаўляюцца ад стварэння груп па вывучэнні іншых моў — польскай, як летась, ці украінскай, ці той жа рускай.

Наш універсітэт уступіў у чацвёрты год свайго існавання. Хочацца, каб ён быў плённы і выніковы, каб зерне любові і павагі да сваіх каранёў, адданасці Бацькаўшчыне давала ўсё больш шчодры ўраджай, каб роднае слова ўсё смялей займала свой пачэсны пасад між іншымі мовамі.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ,**
**сябра Наваполацкай рады ТБМ, член СП Беларусі.**

# Малітва ў перакладзе

Нядаўна мне давялося прысутнічаць пры пахаванні старога чалавека, каталіка. На могілкі прывезлі ксяндза. Гэта быў яшчэ даволі малады чалавек. Калі мы падышлі да брамы на могілках, ксёндз звярнуўся да жанчынаў, якія спяшаліся прайсці на могілкі: «Жанчынкі, не спяшайцеся, дайце, няхай пранясуць нябожчыка». I сказаў ён гэта на чыстай беларускай мове. Маліцца ксёндз пачаў па-польску. Але ж яго польская мова была такая, што нейк і слухаць яе было няёмка. Як быццам вучыў ён гэтую мову па падручніку, напісаным рускімі літарамі.

Пасля малітвы ксёндз казаў казанне. Гаварыў ён на рускай мове, перакazваючы тое, што гаварылася ў малітвах папольску. Але было відаць, што рускай мовай ён карыстаецца рэдка.

I я падумаў: а навошта такая служба? I ці не лепш было б, каб і службу, і казанні, хоць бы ў вёсках, дзе жывуць беларусы-католікі, для якіх беларуская мова родная, каталіцкія святары вялі на зразумелай ім роднай мове. Няўжо іх малітвы будуць горш даходзіць да бога, ці іх словы — да сэрцаў вернікаў?

**Іван ФУРСЭВІЧ,**
**г. Докшыцы. Віцебская вобл.**

# ДЭМАКРАЦЫЯ І РЭЛІГІЯ

*Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.*

**Беларускай Мовы і іншыя дэмакратычныя ўгрупаванні ўзялі ў свае рукі працу адраджэньня народу, яго сведамасьці, мовы і дзяржаўнасьці. Існуе патрэба адно кансалідацыі і палітычнай мэтазгоднасьці, а так жа дакладнага разуменьня дэмакратычных прынцыпаў, што ў нас да гэтага часу рэдка прымянялася.**

**Сярод дэмакратычных прынцыпаў трэба адмеціць: роўнасьць людзей перад законам, павага да годнасьці кожнага чалавека, свабода дзеяньня ў рамках права, свабода веравызнаньня, ды іншыя.**

**Добраю прыметаю дэмакрата ёсьць тое, што ён у практыцы прымяняе хрысьціянскі запавет: не рабі іншаму таго, чаго ты ня хочаш, каб табе рабілі.**

**Рэлігія чалавека зьяўляецца прыватнай і асабістай справай кожнай асобы і гэта натуральнае права забясьпечаецца Законам свабоды веры. Паколькі канфэсыянальныя інтарэсы часта бываюць канфліктныя, то і суадносіны паміж імі мусяць быць акрэсьленыя правам. Ня можна ж дапусьціць дэнацыяналізацыі беларускага народу пры помачы шкоднай агэнтуры.**

**Пра гэта многія прамоўцы на канферэнцыі выразілі сваю заклапочанасьць гэтакімі падзеямі і бясправўем.**

**Я не магу пагадзіцца з пастулятамі доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса. Ён сказаў: «Мы сёння павінны зьмяніць свае адносіны да уніі...» і далей — «...стварыць рэлігію, якая б прынесла мір гэтаму народу і якая была б нацыянальнай рэлігіяй». Хоць спасылка гэта ёсьць гістарычная, але яна была так зроблена, як цяперашні пастулят.**

**Трэба запытацца доктара Мальдзіса, чым ён займаецца — нацыянальнай працай чы рэлігійнай празалітацыяю? Ён фактычна кажа праваслаўным беларусам: вы зьмяніце свае погляды, чурайцеся сваёй веры і пераходзьце ў каталіцтва (бо вунія — гэта каталіцкая вера і нічога больш).**

**А як мы, праваслаўныя беларусы, становячы пераважную частку веруючых у межах сваёй дзяржавы, маем рэагаваць на такія прапазыцыі? Таму, што нас больш, то лягчэй доктару Мальдзісу і іншым з яго групоўкі, зьмяніць веру і стацца праваслаўным, і тады мы створым «мірную нацыянальную рэлігію».**

**Праваслаўная царква празалітацыйнай дзейнасьцю не займаецца, і яе вернікі ня хочуць быць наварочваныя таксама.**

**Усякая рэлігійная палярызацыя ёсць шкодная нацыянальнай дзейнасьці. Справа беларусізацыі царквы, праваслаўнай і каталіцкай ёсьць нацыянальная, але канфэсыянальныя правы чалавека не павінны быць з гэтым зьмешаныя.**

**Я ўпэўнены, што вернікі Беларускай Праваслаўнай Царквы на Бацькаўшчыне, у Беласточчыне і ўсюды на эміграцыі ёсць супраць вунійнай канцэпцыі, як варожай інтарэсам сваёй царквы, так і ўсяму беларускаму народу, прыносячы яму раздрабленьне.**

**Мікола ГАХОВІЧ,**
**інжынер, старшыня Царкоўнага Камітэту парафіі Сьв. Ефрасінні Полацкай ў Лондане.**

# Нашая крэўная мова

Колішнія людзі вельмі шанавалі родную мову, бо яна была крэўная. Яе не цураліся, не глуміліся з яе, бо мова была чыстая і яскравая, святая і прамяністая, як душа нашага продка.

Шчыра кажучы, я ніколі не браў пад увагу мову друку, нават не ўяўляў, што яна гэтак сапсаваная, гэтак забруджаная ды засмечаная, каб не адзін выпадак. Калі я вяртаўся дахаты на Лунінеччыну з вучобы ў час летніх вакацыяў, дык мне пашчасціла спаткацца са школьнымі сябрамі. Яны здзіўлена пазіралі на мяне, што размаўляю я на беларускай мове. Імкнуліся запэўніць, што няма і ніколі не было мовы беларускай. Гэта, маўляў, сапсаваная расейская мова.

І калі я прасачыў мову друку, дык убачыў гурбу абмецццяў, з якіх толькі дзенідзе трапляліся на вочы залатыя жыцінкі крэўнае мовы. Пэўна, шматлікім валадарам замінаў гэткі вялікі і дужы еўрапейскі народ, як беларусы, са старажытнай культурай, мовай, гісторыяй. Ворагі праглі зваяваць Беларусь. Дзеля гэтага хацелі як мага хутчэй падсекчы карані духовасці. Ды як ні руйнавалі нашых святыняў, але карэнне ўсё ж засталося. Яно адродзіць маладыя парасткі, маладую рунь.

І ў першую чаргу павінна адраджацца старажытная крэўная мова. Яе трэба ачысціць ад бруду і ўсялякага ламачча, каб ніхто не казаў, што гэта сапсаваная расейская мова. Яшчэ не ўсё знікла. Яшчэ жыве мова. Трэба стварыць у кожнай вёсцы ўласны слоўнік. Каб моўнымі скарбамі карыстаўся люд і друк. Мы павінны стварыць «Вялікі беларускі слоўнік» усіх нашых ацалелых вёсак, каб ніводнае роднае слоўка не знікла.

Варта распачаць працу ў галіне перакладу. Трэба кожнае слоўца перакласці на беларускую крэўную мову. Вярнуць гістарычныя крэўныя назвы гарадам, вёскам, мястэчкам, вуліцам, пляцам.

І цяпер, калі нашая знявечаная мова вяртаецца ў родную хату пасля доўгіх катаванняў, здзеку і глуму, мы павінны загаіць яе раны, каб яна прыдбала колішнюю прыгажосць, каб пагнай-прыгажуняй узышла на ганак нашага нацыянальнага жыцця.

**Мікола БАЛУК,**
**г. Ташкент.**

# Законы ёсць, але...

Беларусь... Кожны раз, калі злятае з вуснаў гэтае слова, не гонар, не радасць, не шчасце, а ўсё часцей і часцей падкрадваецца да сэрца затоены боль і горыч. У нябыт адыходзіць магутнасць нашай рэспублікі, а ўваччу стаіць адзін і той жа страшны малюнак: зямля, апаленая чарнобыльскім ветрам, атручаныя рэкі і азёры. А да ўсяго гэтага — духоўны Чарнобыль, перад чым мы апынуліся не ў адзін момант, а самі дзесяцігоддзямі пракладвалі да яго шлях.

Нашае сёння — пярэдадзень вялікіх нацыянальных пераменаў. Гэта відавочна, як яснае і тое, што афіцыйны пачатак гэтаму пакладзены Законам аб мовах і Дэкларацыяй незалежнасці. Шкада толькі, што гэтае адбылося са значным спазненнем і толькі пад націскам дэмакратычных сілаў іншых рэспублікаў. Безумоўна, за выдатнае дасягненне дэмакратыі сталася прызнанне гістарычнай сімволікі. Падзякуем БНФ і ўсім, хто неабыякавы да лёсу нашага народу, яго мовы і культуры, што болей не адорваюць беларусаў міліцэйскія дубінкі за прыхільнасць да бел-чырвона-белага сцягу.

Законы ёсць. Ды ці адлюстроўваюць яны рэальнае становішча рэчаў, ці адпавядаюць духу сучаснасці? Існуюць усе падставы, каб усумніцца ў гэтым. Возьмем хоць бы Закон аб мовах. Пацвярджэннем вышэйсказанаму можа служыць той факт, што прыняты 26 студзеня гэтага года Вярхоўным Саветам БССР, ён толькі першага верасня ўступіў у правы, ператварыўся з пустой паперкі ў закон. Ды і даволі працяглыя, калі не сказаць — зацяглыя тэрміны «для паступовага ўвядзення палажэнняў Закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця» не паддаюцца аніякаму тлумачэнню.

На мой погляд, беларускую мову можна вывучыць за паўгода, і людзям, зусім незнаёмым з ёю, спатрэбіцца пры жаданні на гэта максімум год.

Мы павінны вярнуцца да вытокаў, якія жывяць цудадзейнаю сілаю сэрцы сапраўдных беларусаў. Мы гэта зробім. Іншага выйсця ў нас няма.

**Ю. ДУБІНА,**
**студэнт-завочнік I курса факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

# Люблю цябе, беларуская мова!

Вось і закончыўся пяцігадовы тэрмін вывучэння беларускае мовы ў гуртку «Мова нашых пабрацімаў», які мне давялося весці ў сярэдняй школе № 1 старажытнага падольскага горада Ізяслаўе. Мае былыя чацвераклаcнікі заканчваюць навучанне за 9-ты клас, многія збіраюцца працягваць навучанне ў тэхнікумах, вучылішчах і, безумоўна, не будуць мець магчымасці збірацца па серадах сваім колам, каб паслухаць вершы беларускіх пісьменнікаў, новыя запісы беларускіх народных і эстрадных песняў, абмеркаваць цікавыя і змястоўныя артыкулы, якія давялося прачытаць у беларускіх газетах і часопісах. Вельмі цікавае было апошняе занятце гуртка. Прыз за перамогу ў конкурсе чытальнікаў — новая кніжка Таісы Бондар «Спакуса», якая расказвае пра Ефрасінню Полацкую, слаўную князёўну зямлі беларускай. Словы пра родную мову сказалі многія дзеячы беларускай літаратуры. Таму такое іх суквецце атрымалася: Янка Купала і Якуб Колас, Алесь Бачыла і Ніл Гілевіч, Еўдакія Лось і Анатоль Грачанікаў... А спаборнічалі паміж сабой выканаўцы вершаў, мае вучні. Прыз прысуджаны Жане Хеленюк за мастакоўскі выкананае чытанне верша Максіма Танка «Родная мова»...

А потым гучала музыка: дзякуючы «Фан-клубу» Беларускага радыё мы заўсёды маем магчымасць запісаць на магнітафон новыя запісы беларускай рок-музыкі.

Яшчэ хачу падзяліцца сваімі думкамі пра моўнае становішча, якое зараз склалася на маёй роднай Беларусі. Апошні раз я быў у Менску ўсяго два дні, але і іх было досыць для таго, каб пабачыць, што Закон Беларускай Рэспублікі пра дзяржаўнасць беларускай мовы — голая фікцыя, не болей. Як былі абвесткі дыктараў на чыгуначным і аўтобусным вакзалах па-руску да Закона, такімі яны застаюцца і пасля прыняцця Закона. Як рабіў дыктар менскага стадыёна «Дынама» абвесткі ў часе футбольнага матчу па-руску, так і працягвае гэта рабіць. А ў гарадскім транспарце? Апроч метро — ва ўсіх аўтобусах, тралейбусах, трамваях — паўсюль гучыць руская мова, і пачуццё такое, што ты не ў Менску — сталіцы Беларускай Рэспублікі, а ў адным з абласных цэнтраў РСФСР, ні больш, ні менш! Тыя нешматлікія беларускамоўныя шыльды ў цэнтры Менска нічога не мяняюць: ад'едзьце ўбок — і ўсе шыльды рускамоўныя. А афішы на кінатэатрах?! Па-руску! А афішы на рэкламных шчытах? Па-руску! А чаму?! Дзяржаўная ж мова зараз беларуская! Дык куды ж «пазіраюць» кіраўнікі горада Менска? Няўжо не бачаць ні афіш, ні шыльдаў, не чуюць абвестак дыктараў на вакзалах, у транспарце?

Ну, і самае апошняе, што ўразіла яшчэ больш непрыемна, чым пабачаныя тыя рускамоўныя афішы і пачутыя абвесткі — ігнараванне беларускай мовы падчас сэсіі Вярхоўнага Савета рэспублікі адказнымі таварышамі, якія павінны падаваць прыклад шанавання роднай мовы простаму люду: як я не чакаў у часе трансляцыі па радыё ходу сэсіі пачуць беларускае слова з вуснаў Дземянцея, Ціхіні, Лагіра і іншых народных выбраннікаў, так і не дачакаўся! Дык, прабачце, што ж гэта за Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, які размаўляе... па-руску?! Нам тут, на Украіне, гэтага ніяк не зразумець, бо тут і першы сакратар ЦК КПУ т. Івашка, і ўсе іншыя дзяржаўныя дзеячы адразу ж, як толькі быў прыняты Закон пра дзяржаўнасць украінскай мовы, загаварылі па-украінску і не здраджваюць сваёй мове.

Заклікаю ўсю грамаду Беларусі падняць гэтае пытанне: паўсюль у беларускім парламенце павінна гучаць дзяржаўная беларуская мова на самым высокім узроўні. Вельмі крыўдна: я змог навучыць загаварыць па-беларуску, чытаць па-беларуску ўкраінскіх дзяцей, а ў гэты самы час на Беларусі дзядзькі і маладзіцы, беларусы па паходжанні, якія нарадзіліся ў беларускіх вёсках, на сваёй роднай мове двух слоў «зляпіць» у сказе не могуць. Развучыліся? Зракліся?

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг з Украіны.**

*Заканчэнне. Пачатак на 11-й стар.*

скага гарсавета і Пракуратуры БССР распачаць расследаваньне па зьмешчаных у друку зьвестках пра масавае зьнішчэньне людзей у гады Савецкай улады ў раёнах Лошыцы, Сляпянскага лесу і парку Чалюскінцаў у Менску, на Кабыляцкай гары ў Воршы, у раёне Бельчыцы ў Полацку, у Магілёўскіх кар'ерах і ў іншых месцах злачынстваў сталіншчыны.

8. Патрабуем рэабілітацыі ахвяраў камуністычнага рэжыму 50—80 гадоў і сьледства па кожным факце гэтых рэпрэсіяў.

Зьвяртаемся да мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, рэгіянальных радаў БНФ, да актывістаў Народнага Фронту, «Мартыралогу Беларусі», Таварыства Беларускай Мовы з заклікам распачаць рух за вяртаньне гістарычных назваў гарадам, вуліцам і плошчам, за ўшанаваньне імёнаў нашых славутых продкаў, за аднаўленьне гістарычнае і сацыяльнае справядлівасьці ў дачыненьні да ахвяраў камунізму і каланіяльнай палітыкі.

Жыве Беларусь!

Менск. 3 лістапада 1990 г.

## Час збіраць каменне

Уначы з трэцяга на чацвёртага лістапада каля будынку Міністэрства ўнутраных спраў у Менску нехта скраў камень, які ўстаноўлены ў часе жалобнага шэсця грамадскасці на Дзяды і дзе зазначалася: адсюль пачынаўся шлях у Курапаты. Шостага лістапада камень знайшлі на тэрыторыі дарожнага ўпраўлення Маскоўскага раёна горада Менска. Яго аддалі прадстаўнікам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» па загадзе палкоўніка міліцыі гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў Срыбнага. Паводле неафіцыйных сведчанняў, камень у дарожнае ўпраўленне быў прывезены з зоны, дзе адбываюць пакаранне сутачнікі. Сёмага лістапада камень быў зноў устаноўлены каля будынка КДБ. Як зрабілася цёмна, яго скралі і, па ўсім відаць, назаўсёды.

## Хацелі знішчыць крыж

Уначы з дзесятага на адзінаццатага лістапада ў Баранавічах па загадзе тамтэйшых уладаў адбылася спроба знішчыць Крыж Пакуты, які быў пастаўлены грамадскасцю ў дзень памінання продкаў на Дзяды. У цемры каля Крыжа бульдозер спынілі свядомыя беларусы, якія, даведаўшыся, што мае адбыцца блюзнерства, прыйшлі бараніць святыню.

## Выклікаў міліцыю

У канцы кастрычніка ў Стоўпцах адбыўся сход раённае арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны. Прысутнічаў на сходзе сябра Рэспубліканскае Рады Таварыства спадар Вінцук Вячорка. Былі вырашаныя арганізацыйныя пытанні. На жаль, хада паседжання была азмрочаная выпадам работніка раённага Дому культуры, які пасля таго, як са сцэны прагучалі верш Станіслава Судніка «Суд» з беларускае газеты «Рокаш» у Казахстане і рэклама часопіса «Унія», выклікаў нарад міліцыі. Праз пяць хвілінаў праблема вырашылася.

## Утворана гарадская рада

Прадстаўнікі дванаццаці суполак ТБМ імя Францішка Скарыны — усяго пяцьдзесят сем чалавек — у кастрычніку ўтварылі Светлагорскую арганізацыю Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Прыняты зварот да ўсіх жыхароў горада і раёна. Выбраная рада арганізацыі з дзевяцёх чалавек. Старшынёю рады абраны член Саюза пісьменнікаў І. Катляроў. У часе ўстаноўчага сходу паэтка Соф'я Шах прачытала колькі сваіх вершаў. Адзін з іх прапануем вашай увазе

### ЧЫСТЫ ВЫТОК

Украінскі, літоўскі і рускі —
па-суседству жыве гаварок.
Паміж імі і наш, беларускі,
Дзякуй Богу, не вымер, не змоўк.
Меладычны, ласкава-напеўны,—
ну, няўжо наганяе ён страх
тым, што хоча гучаць незаменна,
мацаваць свой спрадвечны абсяг?
Чым жа ён так не йдзе даспадобы?
Хіба рэзка гучыць слоўны рад,
у якім ні пагарды, ні злобы:
Беларусь, запавет, далягляд...
Або гэты — душэўны і плаўны:
засмучэнне, каханне і жаль...
Хіба ж ён не такі раўнапраўны
як — любовь, состраданье, печаль?..
Беларуская, родная мова —
мілагучны, жывы гаварок...
Дай жа Бог, каб ніякая змова
не муціла твой чысты выток!

## Вечарына «Тутэйшых»

25 кастрычніка ў Доме літаратара «Тутэйшыя» ладзілі вечарыну. Свае новыя творы прачыталі маладыя літаратары. З асаблівым натхненнем чытаў свае вершы Анатоль Сыс, у якога якраз быў дзень нараджэння. У вечары бралі ўдзел вядомыя барды Беларусі і рок-гурт «Мроя».

## Пра «Талаку» ў кніжцы

У Маскве ў выдавецтве «Наука» выйшла кніжка «Молодёжный рэнессанс (Проблемы социализации молодёжи)», дзе змешчаны артыкул пра вядомую беларускую суполку «Талака». Напісаў артыкул М. Мейер [illegible]зва: «Нацыянальны рух моладзі на Беларусі. Спроба [illegible]ртрэту». Аўтар між іншага разглядае маральна-этычныя, эстэтычныя пошукі талакоўцаў, псіхалагічны клімат у калектыве, стаўленне да сэксу, сацыяльна-культурную і палітычную актыўнасць, аналізуюцца адносіны друку да суполкі.

## Каласавіны

Дзевятага лістапада Стаўпецкая раённая рада ТБМ імя Францішка Скарыны правяла вечарыну, прысвечаную Беларусі і 108-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. У вёску Дзераўная, дзе адбывалася імпрэза, прыехалі госці з Менску і са Стоўпцаў, актыўны ўдзел бралі вучні сярэдняй школкі з вёскі Слабада, якія паказалі некалькі сцэнкаў з паэмы «Новая зямля». Удзельнікі вечарыны спявалі беларускія народныя і рэлігійныя песні.

На здымку: у часе вечарыны. Фота Уладзіміра Панады.



# Пра мову і каўбасу

*У 1975—1976 гадох выходзіў штотыднёвы самавыдаўскі лісток пад назовам «Аб усім, што баліць» за подпісам Сымона Беларуса. Эпіграфам да гэтых лісткоў быў Купалаўскі радок «Толькі гутарка ходзіць такая». Прапануем вашай увазе гутарку «Пра мову і каўбасу»,— дзе Сымон Беларус заўважыў: Не будзе мовы — не будзе і каўбасы. Заўвага ягоная, як бачым, вельмі трапная: сёння нам, пазбаўленым роднага слова, не кожнага дня знагодзіцца паесці ўсмак.*

Днямі стаю я ў чарзе за каўбасой і чую:

— Гэта ж столькі Беларусь дае мяса, а тут трэба выстойваць нямаведама колькі часу за нейкай нішчымнай каўбасой.

Сказанае мяне не здзівіла. Такое я ўжо чуў неаднойчы, стоячы ў даўжэзных чэргах. Здзівіла тое, хто гэта гаварыў. Голас мне здаўся знаёмым. І я не верачы сабе, падумаў: «Няўжо Яўхім Крывенька?» Гэта мой даўні знаёмы. І я не верачы сабе, падумаў: «Няўжо Яўхім Крывенька?» Гэта мой знаёмы. Праўда, я яго даўно не бачыў, гадоў з пяць. Ён недзе пераехаў жыць у другі канец гораду.

Запомніўся ён мне найбольш тым, што заўсёды, спаткаўшыся са мною, ушчуваў мяне за маю беларускасць:

— А вы ўсё гаворыце па-беларуску? Кіньце вы гэту сваю мову. Вунь другія ўжо даўно яе выракліся і жывуць лепш за вас. З ёю нікуды не выб'ешся, з ёю не прадасі і не купіш. Дык навошта яна патрэбна? Ну, хоць бы майму сыну? Ён і без яе вышэйшую адукацыю атрымае. Вось убачыце, што на ёй скора ніхто гаварыць не будзе, хіба толькі вы адзін. І правільна робіць Беларусь, што ад сваёй мовы адракаецца. Без яе можна абысціся. Затое ў нас каўбасы шмат, нідзе столькі няма, як у Беларусі. Вунь у Расіі пуста, як вымецена. Там ніякай каўбасы няма, а ў нас якой хочаш...

Я з Яўхімам Крывенькам не спрачаўся, бо хіба такога ў чым пераканаеш? І вось раптам чую такія словы. А можа гэта не ён? Не, ён, хоць і намнога пастарэў. Я падышоў да яго. Ён таксама мяне адразу пазнаў.

— Што, за каўбасой стаім? — кажу я.

Яўхім Крывенька адчуваў ніякавата перада мною, відаць, успомніўшы ўсё тое, што гаварыў некалі мне.

— Ды вось жа прыходзіцца стаяць.

— А як сын? Паступіў куды-небудзь?

— Ого, паступіш тут у Беларусі, калі сюды з усяго Савецкага Саюзу з'язджаюцца. Ведама ж, няма экзамена па беларускай мове. Няхай яны вось паспрабуюць паступіць у Літве.

Вось як! Нават і да Яўхіма Крывенькі дайшло, для чаго існуе родная мова, што, аддаўшы яе, аддасі і ўсё астатняе, не атрымаўшы нічога ўзамен, апроч хіба нішчымнай каўбасы.

Сымон БЕЛАРУС.

Антаніна ХАТЭНКА

### Аляксею Марачкіну

Яшчэ не развіднела ў сонным краі.
Ахвярную Аўрору шле Усход.
...Ды нашая Дзянніца не згарае,
Вянчае часу неадольны ход.

Плутоніем напоеная хмара,
Бацькоўскі кут прыняў збавення кнут.
Абвугленыя крылы зорнай мары —
Наканаванне наша ці прысуд?

Сьвяці, Дзянніца! Божае збавенне.
Не праміне! Аднойчы ўспомніць люд:
Перад зямлёй святою на калені
Ўставалі продкі, асвячалі кут.

Мы на куце. Дзядоўскія дарогі,
Як ціхі крыж ля чорнае мяжы.
У белым свеце вечнага Сварога
Краіне белай пад Дзянніцай жыць!

Гарыць на Ўсходзе скрывянелы золак.
А на святой пакутніцы-зямлі
Ці знічкі-слёзы коцяцца да долу
Ці нашага бяспамяцтва вуглі...

Сцягі святая вера развінае
І абуджае вершнік сонны край.
Нястомная, гаркотная, зямная,
Не дагарай, надзея, не згарай!



# ЛІСТАПАД

Ляцеў птах, на воду ўпаў, вады не змуціў і сам не вылецеў. Вісіць — зялёны, ляціць — жоўты, ляжыць — чорны. Усе паны паскідалі жупаны... Гаспадар багаты, ды смуцён, гаспадыня бела, ды бедна.

Нашы прашчуры прыдумалі не толькі паэтычныя словы пра лістапад, пра восень. Яны верылі, што сонца, пачынаючы з летняга сонцавароту, паступова губляе сваю моц, а пасля і зусім знікае. Толькі на Каляды яно адраджаецца зноў. Дарэчы, думалі, што так адбываецца і з людзьмі. Памеры чалавек не пакідаў, паводле іх уяўлення, зямной прасторы, а толькі зноў нараджаўся, магчыма, нейкай іншай істотай.

Восень была парой, калі найчасцей ладзіліся вяселлі. А таму не дзіўна, што тое старадаўняе вераванне ў адраджэнне захавалася менавіта ў вясельнай беларускай народнай песні.

Бяроза з лістом,
бяроза з лістом
Усю восень шумела:
«Лісточак жа мой,
зялёненькі мой,
Ты ж мяне пакідаеш».
— Нябось, бяроза,
нябось, белая,
Я цябе не пакіну.
Увосень ападу, вясной
нарасту
І з табой буду!

Хвала нашым мудрым **прашчурам**! Сёння мы яшчэ і ўявіць сабе не можам ні іх, ні той час, калі яны пачалі складваць словы будучай — нашай — мовы. Скарб гэты — пэўна зачараваны — не губляецца, не рассыпаецца, не траціцца. Насуперак.., з кожным сонцаваротам нашага святога Адраджэння, паўстае наша мова, як з попелу птушка Фенікс.

Здзіслаў СІЦЬКО.

# БЕРАЖНІЦА

Сёньня далёка не кожны ў нашым краі зможа вытлумачыць сэнсавы зьмест гэтых слоў. І ня дзіва, бо ў мінулыя засушлівыя для нашае культуры гады паступова перасыхалі і дыялектныя крынічкі, якія праз стагодзьдзі жывілі раку нашае Мовы. Нарэшце ветрык перабудовы прынёс у наш край жыўлівы дожджык. І, веру, ня ўсохнуць да рэшты крыніцы і надалей будуць жывіць нашу Раку.

Вытокі многіх дыялектных крынічак у паданьнях і прымхах, на якія люд і . нашага Нарачанскага краю яшчэ не забыўся, якія перадаюцца з вуснаў у вусны, перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне. Самае знакамітае — паданьне пра Нару. Упершыню пачуў яго ўрыўкі ў канцы сямідзесятых, калі сьцяжына лёсу прывяла мяне ў гэты Богам беражоны край. Да болячы крыўдна, што і да сёньня не напаткаў таго, хто расказаў бы паданьне пра Нару ад пачатку да канца. Многія яшчэ памятаюць асобныя ўрыўкі-фрагменты. А вось каб цалкам... і дужа зажадалася сабраць да слоўца з гэтага паданьня, што ў памяці людзкой.

Самы ходкі ў нашым краі ўрывак заканчваецца тым, што нарачоная Ача, прыгажуня Нара, уцякла з магнацкае няволі. І калі гайня насьпела яе, яна годна супраціўлялася. Лопнуў шнурочак пацерак — чароўнага дарунку каханага. Пырснулі па ўсім краі блакітныя пацерачкі, і там, дзе ўпалі — узьніклі азёры. А бліжай да Нары буйная ўпала і, «возера злотым пацірам апоўнела». Самае вялікае возера нашага краю. Вырвалася з хіжых лапаў Нара, узьбегла на пакручасты бераг і... галавой у бездань-прадоньне. Не аддала на зьдзек дзявоцкую годнасьць, засталася адданай свайму каханьню. І назвалі возера Нарачу. Яно стала сымболем мужнасьці, пяшчоты і нязгаснага каханьня.

Сярод многіх фрагментаў гэтага паданьня, запісаных мною, ёсьць урывак, які можа быць лагічным працягам прыведзенага вышэй.

...Прыпаўзло з чужых краёў дзіва гідкае, страхоцьце рагатае, упадабала возера чароўнае ў бурштынавых берагах і пасялілася ў ім. З таго часу пачалі прападаць тутэйшыя дзяўчаты-прыгажуні, сьпявачкі ды музычкі, танцоркі ды майстрыхі найлепшыя. Пойдзе да возера каторая — назад не варачаецца. Шыляцца чуткі, што сьмярдзюк-вадзянюк іх пабірае, да сябе ў возера, за прыслугу ды на забаўку. А ў летнюю купальскую ноч, калі возера зьзяе срэбрам ад поўні, адпускае ўтоплых дзяўчатаў на бераг да раньня. Хаваючыся ў чаротах ад людзкіх вачэй, выходзяць на бераг яны ва ўсёй чароўнай прыгажосьці. «Карагодзяць ды таньчаць, майструюць-плятуць, ткуць-вышываюць ды амотна -жальлівыя песьні сьпяваюць». І назваў іх тутэйшы люд беражніцамі.

Дзедам сьсівелым у родны свой край вярнуўся з войска Ач, аддадзены ў жаўнеры магнатам за тое, што ратаваў ад забраньня сваю нарачоную Нару. Не пазнаў радзімай зямелькі, як не пазналі яго землякі. Пачуў гісторыю пра сваю любую ды возера нязнанае, зь якога раз на год выходзяць беражніцы, а сярод іх найчароўная ды найсамотная — галоўная беражніца — Нара. Забалела старэчае сэрца, закалацілася, і насьмеліўся Ач высачыць-выглядзець беражніц. І ўбачыў ён цуд, якога жадаў. Калі беражніцы выйшлі з чароту, і дзівосныя гукі іх песень чароўным туманам паплылі над возерам, не ўстрымаўся Ач і старэчым голасам гукнуў: На-ра-а! Разьлеглася рэза ад берага да берага. Узьнялося над возерам велізарнае страшыдла рагатае, жудасна зарагатала і плюхнулася ў ваду. Наляцела на бераг шалёная хваля і ўраз глынула беражніц. А сьмярдзюк-вадзянюк рагоча: «Усьцеш мяне, старэча, тады і Нару сваю пабачыш». Злавіў Ач вангора на тузін цаляў і зладзіў з вангоравай галавы гудзёлку-падвывыўку. Цэлы год выў над возерам жудасны зык Ачава граньня. Ні чалавек, ні зьвер, ні птушка не насьмельваліся патрапіць да возера. Роўна праз год у купальскую ноч Ач зноўку зглядзеў беражніц. Відаць, усьцешыў ён страхоцьце рагатае выцьцём сваёй гудзёлкі. Але не гукаў болей Нару. Не хацеў, каб яе сьпеў перапыніўся, а ў вушах зноў цэлы год выла вангорава гудзёлка. Ён руплiва пераймаў усё падслуханае ды падгледжанае ў беражніц, і каб не даць прапасьці духоўнаму скарбу нарачанцаў, вяртаў яго людзям, нёс па ўсім краю Нарочча. Нёс дабро, прыгажосьць і каханьне...

У гэтым паданьні я пачуў нямала раней нячутых слоў, сярод якіх «беражніцы» і «Нарочча». Якая дзівосная мілагучнасьць у слове «беражніца», які глыбокі сэнс! Яно з посьпехам магло б стаць адпаведнікам слову «русалка» толькі з той розьніцай, што беражніца не лазіць па дрэвах, а «русалка на ветвях сидит». Яна паводзіць сябе з большай годнасьцю, не аблытвае сваімі валасамі рукі і ногі ахвяры, як гэта робіць «русалка», калі зьбіраецца кагосьці ўтапіць. У беражніцы місія высакародная, яна чуецца ў гучаньні гэтага слова. Нават, па волі лёсу пакінуўшы зямлю, яна беражэ, зьберагае, перадае свой скарб духоўным нашчадкам.

Імёны закаханых Нары і Ача, зьліўшыся, утварылі назоў возера Нарач, ад якога займеў свой назоў і край Нарочча. Шкада, што словы «Нарочча» і «беражніца» рэдка ўжываюцца. Праўда, на Нарачы ёсьць фальклорна-этнаграфічныя ансамблі «Нарочча» і «Беражніца», выдаецца прыватная газета «Нарочча». А як прыдалася б назва «Беражніца» да адной са здраўніц курорта «Нарач». А «Беражніца» магла б дапамагчы нам зьберагчы здароўе, і ня толькі духоўнае. Хочацца спадзявацца, што знойдуцца людзі, неабыякавыя да нашай культуры, да нацыянальнага фальклору, і дадуць слову, якое прыйшло да нас праз стагодзьдзі, новае жыцьцё.

Гэтыя слоўкі жывуць і будуць жыць. Яны нарачанскімі крышталёвымі кропелькамі ўліюцца ў паўнаводную раку нашае мовы.

**Юрась МАЛАХОЎСКІ,**
**Мядзельскі раён.**

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Паведамляем, што Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыцьцяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.**

**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.**

●

Рэдакцыя дасылае папярэднія нумары «Нашага слова» накладной платаю. Той, хто жадае мець бюлетэнь, няхай паведамляе нам свой адрас. Кошт аднаго нумару — 20 капеек.

●

Паважаныя чытачы. Рэдакцыю «Нашага слова» цікавяць вашыя погляды на змястоўнасць бюлетэня. Заўвагі, прапановы, парады дасылайце на адрас «Нашага слова».

**У мінулым нумары «Нашага слова» пад рубрыкай «Голас дзяцей — голас Божы» замест Галіна Трусевіч трэба чытаць Галіна Прусевіч.**






**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі 33-25-11**

**Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.**

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». **Наклад 10 000 паасобнікаў. Заказ 2181. Індэкс 74975.**